# ТРАГЕДЫЯ Ў КРЫЖОЎЦЫ

Менск — горад бяз памяці. Ня раз перарывалася тутака за XX стагодзьдзе сувязь пакаленьняў, ня ў два разы разбух ён ад патоку ўчорашніх вяскоўцаў, уцекачоў з раздушанага камунізмам сяла, для якіх, у выніку, любая мінуўшчына — кашмар, што трэба стрэсьці з плеч навекі. Усё ў Менску мянялася. Менск беспараўнана ўмее сьціраць сьляды. Цяжка сьцерці аднак асабісты боль. Менск за апошнія 30 гадоў спазнаў усе магчымыя пачварныя катастрофы прамысловай эпохі: выбух на радыёзаводзе, падзеньне ТУ-134 зь цьветам менскага студэнцтва, апакаліптычныя пажары, урэшце Няміга. Няўпэўненая ў сабе дзяржава ня любіць, каб заставаліся помнікі на месцы трагедыяў, за якія яна адчувае віну. Гэтай гісторыі не вывучаюць прафэсары і акадэмікі. Толькі сьведкі памятаюць. Сярод гэтых гвалтам забытых трагедыяў — чыгуначная катастрофа пад Крыжоўкай. Пра яе згадвае Сьвятлана Длатоўская.

Мне тады было 11 гадоў.

1 траўня 1977 году выдалася надзвіа мярзотным: халадэча, вецер, мокры сьнег. Але сыноптыкі паабяцалі хуткае пацяпленьне да 24 градусаў цяпла. І сапраўды, назаўтра з раніцы выбліснула сонейка, і народ, які намёрзься на дэманстрацыі, ірвануў дасьвяткоўваць на прыроду.

2 траўня ў лесе ля чыгуначнай станцыі Крыжоўка маладачанскага кірунку яблыку не было дзе ўпасьці. Скрозь сядзелі купкі моладзі, дый на лецішчах было сьвет народу. Гадзіне а 17-й пачалі зьбірацца дадому. Асабліва мужыкі, бо меўся быць нейкі футбольны матч. Электрычка павінна была прыбыць недзе а 17-.., але бавілася. Станцыйны будынак і пэрон былі перапоўненыя. Нарэшце доўгачаканая прыцягнулася... Штурм вагонаў таксама доўжыўся больш запланаванага часу, і пасажырам з наступнай Ратамкі ўжо нічога «не сьвяціла», бо вагоны былі запоўненыя звыш меры, ледзьве дзьверы зачыніліся.

Той, хто не пасьпеў, потым доўгі час ці дзячыў, ці праклінаў Вышняга, узгадаўшы яго сярод савецкага сьвята.

Недзе толькі ў 17.40 нарэшце перапоўненая электрычка зьнялася з тармазоў, але крануцца не пасьпела: з-за павароту вылецеў пасажырскі цягнік і з усяго маху ўрэзаўся ёй у «хвост». Апошні вагон сьціснуўся ў «гармонік» і заваліўся на бок. Сэмафор паказваў зялёнае пока, п'яны станцыйны служка хроп ... сваёй старожцы. Чаму машыніст электрычкі не паведаміў пра затрымку, засталося незразумелым.

Машыніст і яго памочнік зь цягніка пасьпелі даць па тармазах і выскачылі з кабіны, але, здаецца, забіліся. З пасажырскага ніхто болей сур'ёзна не пацярпеў.

Я, мая маці, малодшая сястра і прадзед знаходзіліся ў тым, апошнім вагоне электрычкі. Дзядуля загінуў, мяне, як кажуць, выцягнулі з таго сьвету, маці і сястра таксама моцна пацярпелі. Даведаўшыся пра здарэньне, прабабка памёрла, бацька празь некаторы час трапіў у лякарню. Наагул шок быў такі, што ў нашай сям'і гадоў 10 слова «электрычка» стараліся не ўжываць. І наша трагедыя была яшчэ ня самай жудаснай. Былі яшчэ, напрыклад, бацькі-пэнсіянэры, якія не пасьпявалі за сваімі хлопцамі-юнакамі і ўбачылі толькі, як за сьпінамі тых зачыніліся дзьверы таго злашчаснага вагону...

Я ня ведаю дакладных лічбаў. Відаць, сапраўдную колькасьць пацярпелых — і то прыблізна — ведалі толькі лекары ды найвышэйшае чынавенства. І ўсё было зроблена, каб больш ніхто не даведаўся. Каб не «псаваць» людзям сьвята, каб не абцяжарваць юбілейнага году (1917—1977) змрочнымі падзеямі, каб не пранюхалі з-за бугра, каб адмазаць кіраўніцтва чыгункі, каб не плаціць належнай кампэнсацыі (нам, напрыклад, тады выдалі па 147 савецкіх рублёў на траіх жывых, ды быццам бы замацавалі да нейкага гастраному на проціглеглым канцы гораду, куды ледзьве жывыя бацькі так ні разу й не дабраліся). Прычынаў можа быць шмат. Але ж нават хаваць людзей не дазвалялі «адным масівам», вышуквалі месьцінкі ў розных куточках на розных могілках. Чамусьці на некаторых помніках аўхвярам зьявіліся зусім іншыя даты сьмерці.

Працяг на старонцы 6.

НАША НІВА
ПЕРШАЯ БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЭТА
Заснаваная ў 1906. Адноўленая ў 1991. Выходзіць у панядзелкі. №18 (175) 2 траўня 2000 г.


Фота Дзяніса Раманюка

# У МАГІЛЁВЕ МАЁЎЦАЎ ПАХАПАЛІ

Улады адмовілі эсдэкам і Свабодным прафсаюзам адмовілі ў правядзеньні мітынгу, маўляў, у горадзе праводзіцца афіцыйны мітынг на пл.Леніна. Тады апазыцыянэры выказалі жаданьне прыняць удзел у гэтым мітынгу.

Учора раніцай дзьве калёны рушылі ў бок плошчы Леніна. Калёна Маладога Фронту пайшла па вул.Ленінскай. Другая, Грамады і прафсаюзу, стала зьбірацца праз вуліцу ад пл.Леніна. Дэманстранты трымалі лёзунгі «Варты заробак — рабочым», «Не — росту цэнаў».

Міліцыянты пачалі затрымліваць патэнцыйных удзельнікаў мітынгу з абедзьвюх калёнаў, як толькі тыя рушылі.

Вось як апісвае падзеі лідэр абласнога Свабоднага прафсаюзу Юрась Новікаў:

— Нас затрымалі міліцыянты, акружылі і пачалі правяраць нашыя сьцягі і лёзунгі. Калі мы пачалі разгортваць сьцягі Свабоднага прафсаюзу, падпалкоўнік Аленушкін сказаў, што гэтую «свастыку» мы не дазволім вам разгортваць на плошчы, бо «вас могуць разарваць на часткі ветэраны». Тымчасам пачалі выхопліваць з шэрагаў нашых сябраў, якія несьлі транспаранты, сьцягі. А потым, пратрымаўшы дзьве гадзіны, іх адпускалі і казалі: «Мы вас не затрымлівалі. Вы самі сюды прыйшлі, вас ніхто не запрашаў».

15 магілёўцаў былі вызваленыя, толькі на пяцёх складзеныя пратаколы. Валер'я Сівуху і лібэрала Аванэса Мурадзяна абвінавачваюць у выкарыстаньні сьцягоў нявызначанага ўзору. Як заявілі супрацоўнікі міліцыі, наканечнік сьцяга можа быць выкарыстаны ў якасьці халоднай зброі, пасьля чаго прадэманстравалі, як гэта робіцца.

Мусіць, магілёўскія міліцыянты таксама хочуць рэпутацыю разгоншчыкаў мірных дэманстрацыяў.

**Паводле Радыё Свабода**

Андрэй Хадановіч

## Калі разгуляецца...

Люблю навальніцу на сьвята працоўных,
калі разгуляецца ў небе пярун,
а тут, на зямлі, із стыхіяй на роўных,
свой верш прамаўляе паэт-гаварун.

Нябёсы маланкай міргнуць дабрачынна,
вясновую зьліву ўзмацнійўшы ўтрая, —
прамокне наскрозь чарнявая дзяўчына,
прынада, прынада, прынада мая!..

Да хаты вяртаецца ўдзячная моладзь
зь дзіцячых садкоў беларускіх і школ,
нябеснага бацьку ў Жыровіцах молячь,
каб шчасьце ды мір панавалі вакол.

На ўсходзе даўно не здаралася путчаў,
на захадзе хутка дазволяць аборт,
а шчасны паэт, не раўнуючы Цютчаў,
чакае натхненьня, ўмыкаючы «Word».

Ён будзе пяяць пра сюжэт старадаўні.
Пра іншае, дружа, пакуль памаўчы!
Як кожнага году на першага траўня,
галоўнае сьвята пачнецца ўначы.

Курган векавечны амаль раскапаны,
і хутка натоўп неразумных хазар,
вампіры і ведзьмы, залётнікі й панны,
калёнай памкнуць на славянскі базар!

Сябрына на шабаш, бы спожыць у кайстру, —
бязь лебедзяў чорных і белых варон.
І кожнай Мальгрэце -- асобнага Майстра,
І кожнаму Фаўсту -- уласны патрон.

Шатаны, анёлы, багі, дэміюргі,
прыходзьце, нясеце дары ў дарасхоў:
зямля беспасажна-цнатлівых Вальпургій
дагэтуль чакае сваіх жаніхоў!

Красавік 2000

# БУДНІ САВЕЦКІХ ГЕРОЯЎ
## Гісторыя Данукалава

Пэўны час таму «Наша Ніва» паведаміла пра сьмерць Васіля Струпаўца, апошняга сьведкі зьверстваў савецкіх партызанаў у вёсцы Якімавічы Слонімскага раёну. «Аднак ні пры савецкай уладзе, ні пры сёньняшнім рэжыме Струпавец так і не дамогся суду над злачынцамі», — адзначыў з гэтай нагоды Сяргей Ёрш («НН», 28.02.2000). І сапраўды, судовыя працэсы супраць савецкіх катаў, накшталт працэсу Васіля Конанава ў Латвіі, уявіць у сёньняшняй Беларусі немагчыма. Пры гэтым трэба абавязкова падкрэсьліць адну вельмі важную рэч: пасьля заканчэньня другое сусьветнае вайны прайшло ўжо 55 гадоў, а ў нашай краіне так і не запанаваў рэалістычны погляд на падзеі 1941—44 г., гэтага самага крывавага пэрыяду ў нашай найноўшай гісторыі. А без пананаваньня ў грамадзтве гэткага погляду юрыдычны перасьлед ваенных злачынцаў ніколі ня будзе падтрыманы ні большасьцю насельніцтва, ні кіраўнічай элітаю, і таму застанецца маларэальным нават пасьля зьмены палітычнага рэжыму.



Працяг на старонцы 8.

НАВІНЫ

### Пачалі зь перамогі

На хакейным чэмпіянаце сьвету ў Пецярбургу ў мінулую нядзелю зборная Беларусі выйграла ў зборнай Украіны зь лікам 7:3, а латышы прайгралі швэдам 1:3. Такім чынам Беларусь у групе «А» займае першае месца. Сёньня адбудуцца матчы Беларусь—Латвія і Швэцыя—Украіна, а 4 траўня нашы згуляюць са швэдамі, а ўкраінцы з латышамі.

**А.К.**

### Падаткавікі на дарогах

Магілёўскія падаткавікі ўзяліся за прыватных таксістаў: ловяць тых, хто людзей падвозіць, а не зарэгістраваны. Падаткавікі ў цывільным спыняюць машыны, а калі кіроўца адвозіць іх і бярэ за перавоз грошы, яго бяруць за руку і накладаюць штраф. 25 машын ужо арыштавалі, а штрафы складаюць ад 20 да 50 мінімалак. Усяго ж такім чынам падлавілі ўжо 31 кіроўцу.

**Сымон Глазштэйн, Магілёў**

## У кожнай трэцяй сям'і — машына

Паводле БелаПАНу, у асабістым карыстаньні грамадзянаў краіны знаходзіцца 2 003 694 розных транспартных сродкаў. Большасьць зь іх — 1 285 297 — легкавыя аўтамабілі. Апроч таго, беларусы маюць 49 168 грузавікоў, 11 597 аўтобусаў, 116 824 прычэпаў і аж 540 808 матацыклетаў. Сярод машын найбольш ВАЗаў — 395 797 адзінак ці 30,8%. Другая па папулярнасьці марка — «масквіч». Іх 199 774 (15,5%). Трэцяя — «фальксваген» (117 273). Далей па папулярнасьці ідуць «запарожац», «аўдзі», «опэль», «форд», «мэрсэдэс», «мазда», «БМВ», «волга», «рэно», «нісан», «ФІАТ», «таёта», «пэжо», «міцубісы», «шкода», «хонда», «сітраэн». «Ягуараў» у Беларусі зарэгістравана усяго 97, «лінкольнаў» — 43, «кадылякаў» — 30, а «іначэнці» — усяго 15. А аварыяў найбольш адбылося праз «Жыгулі»: 720 летась, у якіх загінулі 196 і паранены 817 чалавек. На другім месцы тутака «фальксвагены», з-за якіх адбыліся 463 ДТЗ, загінулі 154 і паранены 529 чалавек. На трэцім — «аўдзі», далей — «опэлі» і «форды». «Масквічы» ж мабыць ужо толькі лічацца, але ўсе стаяць стоем.

## Больніцы закрываюцца

У лякарнях Барысава спынілі шпіталізацыю хворых. Паводле галоўнага лекара Барысаўскай гарадзкой больніцы Леаніда Чура, гэта адбываецца з-за адсутнасьці сродкаў. Амаль не засталося перавязкавых матэрыялаў і аднаразавых шпрыцоў. Людзей бяруць толькі для таго, каб praапэраваць вострыя апэндыцыты, цяжкія пашкоджаньні пры няшчасных здарэньнях і атручэньнях. Астатнім хворым адмаўляюць у дапамозе — «не памруць, вычарпяць». Не шпіталізуюць нават інвалідаў другое сусьветнае вайны. Такая сытуацыя і ў іншых месцах краіны. Між тым, паводле інфармацыі Міністэрства фінансаў, на сьвяткаваньне Дня перамогі выдзелілі 440 мільёнаў дэнамінаваных рублёў (каля 460 тыс. даляраў паводле рынкавага курсу) — на парады і п'янкі. Напышлівае сьвяткаваньне выглядае на гэтым тле даволі цынічна. Падобна, што нехта малады й моцны распрацоўвае перад выбарамі свой традыцыйны «вэтэранскі» электарат.

**Сьвятлана Курс**

## Парад у Менску, а трэніроўкі ў Баранавічах

Гэтым тыднем па чатыры, вельмі нізка над горадам, насіліся самалёты-зьнішчальнікі Баранавіцкай вайсковай часткі. Рыхтуюцца летуны да параду ў Менску 9 траўня. Людзі ж пужаюцца, яшчэ памятаючы, як пару гадоў таму загінуў лятун Карват, першы Герой Беларусі, ледзь адцягнуўшы падаючы зьнішчальнік МІГ-29 ад вёскі Арабаўшчына, што побач з горадам.

## Хто падпіша на «Нашу Ніву»?

Баранавіцкая гарадзкая бібліятэка ладзіць акцыю да Сусьветнага Дня кнігі — "Падаруйце кніжні кнігу". Прымаюцца ў падарунак старыя, ужо прачытаныя й непатрэбныя кнігі ад жыхароў гораду. Таксама кніжня шукае спонсараў, якія б падпісалі яе на пэрыядычныя выданьні ці падаравалі б колькі грошай.

**Руслан Равяка, Баранавічы**

## Азеляненьне

Толькі пару дзён пратрымалася новая шыльда на фасадзе Беларускага ўнівэрсытэту культуры. Зрабілі яе не стандартным «чыгунком», а прыгожай ды вялікай, на ўвесь брылёк над уваходам, з залацістымі літарамі на чырвоным тле ды танюткімі белымі стужкамі для акантоўкі зьверху й зьнізу. Дык камусьці вельмі не спадабалася, што паміж белымі стужкамі крыху чырвонага фону засталося. Крамола! Загадалі прыбрадь. І дадаць «сапраўднага нацыянальнага» колеру. І той кавалак чырвонага заляпілі зялёнай стужкай. *Саблюлі інцярэсы славянскага народу.*

**Дзяніс Носаў**

## Пачырваненьне

Бабруйскія ўлады па горадзе расклеілі плякаты ня проста «з Днём Перамогі», а «з Днём Перамогі савецкага народу...» Чырвонымі сьцяжкамі, зусім не маленькімі, утыкалі ня толькі горад, але й фактычна загарадную дарогу — церазь Бярэзіну да бліжэйшых вёсак. Адміністрацыйна гэта яшчэ ў межах гораду, але — лугі, рака й чырвоны сьцяг на кожным слупе... А на міліцэйскім блок-пасту ажно тры. А ў цэнтры гораду ўпоперак вуліц вывесілі лёзунг «Политику президента Республики Беларусь одобряем и поддерживаем». Хто «падтрымлівае і ўхваляе», незразумела, бо ўвесь Бабруйск заклеены й расьпісаны зусім іншымі лёзунгамі.

**Н.Дз.**

## Траўка ў пляшцы

Як паведаміў БелаПАН, днямі на пераходзе «Аляксандраўка» на беларуска-украінскай мяжы затрымалі «жыгулі», у якіх была знойдзена бутля нібыта з 5 літрамі алею. Увагу памежнікаў прыцягнуў шэры колер вадкасьці. Прызналі, што замест алею ў бутлі — марыхуана.

## Хваробы мэдыцыны

У Мастах бюджэтнікам сталі затрымліваць заробак. Асабліва гэта адчулі на сабе мэдыкі. Да гэтага дадалася яшчэ адна прыкрасьць: грошы найперш выплочваюць начальству, а малодшы мэдычны пэрсанал павінен заўсёды чакаць. Санітаркі і нянечкі вырашылі шукаць праўды. Жанчыны датэлефанаваліся да абласнога здароўаддзелу. Гарадзенскі чыноўнік выслухаў скаргі і адказаў толькі на адну зь іх: жанчыны плакалі і казалі, што няма чым карміць дзяцей, а ён паабяцаў даць мех уласнай бульбы. Але на наступны дзень грошы заплацілі.

А ў суседняй Лідзе тымчасам паболела хворых на СНІД. За апошнія 3 тыдні хвароба знайшла яшчэ 14 ахвяраў, і агульная колькасьць інфікаваных дасягнула 67 чалавек. Колькасьць хворых на СНІД на Гарадзеншчыне сёлета імкліва расьце. Не спадае і разгул пранцаў. Найбольш хварэюць на іх у Смаргонях.

**Беларуская Асацыяцыя Рэсурсавых Цэнтраў**

## «Лукашэнку» зьнішчаць

27 красавіка судзьдзя Іна Шэйко вынесла папярэджаньне Дзянісу Яроменку, які прыйшоў на «Чарнобыльскі шлях» з штукай, якая нагадвала міліцыянтам Лукашэнку. Кампазыцыя складалася з хакейнага шлему, прымацаванага да шчоткі (што імітавала вусы), дзьвюх накрывак ад сьмятаны замест вачэй і носу зь пенапласту. Сам аўтар казаў у судзе, што гэта быў «творчы крык душы». Судзьдзя ж дала Яроменку папярэджаньне, а ягоны твор пастанавіла канфіскаваць і зьнішчыць. Хто будзе зьнішчаць і дзе, агенцтва БелаПАН ня піша.




Малюнак В.Фурмана



Фота Л.Свецік

## Райкам на касьцях

Пры канцы красавіка па Крычаве папаўзьлі чуткі: каля санэпідэмстанцыі хтосьці адкапаў чалавечыя косьці, і навокал валяюцца фрагмэнты шкілетаў, чарапоў. Што гэта за косьці, чаму іх так шмат і, нарэшце, хто там іх выкапаў?

На пачатку 90-х на гэтым месцы пачаў будаўніцтва мясцовы кінапракат. І тады таксама экскаватарны коўш выгарнуў многа чалавечых парэшткаў. Будаўнікі заклалі падмурак, але з-за фінансавых цяжкасьцяў работы спыніліся. У той час пераменаў ніхто не зьвярнуў увагі, на чым будуюць. Цяпер пліты падмурку, што так і засталіся ляжаць у зямлі, прадалі ўладальніку прыватнага дому, які жыве ў завулку Вузкім. Прыватнік наняў экскаватар і распачаў выкопваньне бэтонных плітаў. І зноў на паверхню выцягнулі вялікую колькасьць касьцей.

Рэч у тым, што непадалёк ад месца раскопак шмат вякоў стаяў велічны касьцёл, за якім знаходзіліся каталіцкія могілкі. Бальшавікі касьцёл узарвалі. А на месцы могілак пабудавалі пару дамоў, у адным зь якіх у свой час месьціўся райкам камуністычнай партыі (цяпер у ім санэпідэмстанцыя), у другім будынку сёньня — дзіцячы садок №2. І яшчэ даволі вялікая плошча могілак занятая прыватнымі дамамі.

Мясцовыя ўлады пакуль не зважаюць на жудасныя раскопкі. Крычаўская санэпідэмстанцыя таксама яшчэ не праявіла інтарэсу да чалавечых парэшткаў, уладальнікі якіх памёрлі некалькі стагодзьдзяў таму мо ад якой халеры ці чумы.

**Андрэй Кузьмін, Крычаў**

лісты ў рэдакцыю

## Што ж вы, рабяты?

*Бывае ў «ЛіМе» такая рубрыка: «Расчараваньне тыдня». Дык вось, хачу падзяліцца сваім асабістым «расчараваньнем году». Купіла сёньня часопіс «Першацьвет» № 2—3 за гэты год і што ж убачыла? Добрая трацiна матэрыялаў — на расейскай. Ад такой неспадзеўкі нават не пацешылі цікавыя пераклады і інтэрвію з Рыгорам Барадуліным. Адчуваньне, як пасьля аплявухі — і крыўдна, і злосна, і біцца не палезеш.*

*Капец часопісу. Траянскі конь ужо ў горадзе. Ну, сапраўды, нахабства якое! Хочаце друкаваць расейскамоўных аўтараў — калі ласка, ніхто не забараняе ствараць свой часопіс, дык не, трэба ўзяць ужо «раскручанае» выданьне і ўплішчыцца туды. Праз пару гадоў будзе беларушчына туліцца ў куточку і радавацца, што месца далі. Скажаце, перабольшваю? А ўспомніце «Свабоду», пагартайце «Народную волю», ды ўрэшце вазьміце хоць бы наша гарадзкое «Бабруйскае жыцьцё», калісь чыста беларускамоўнае (зьместу кранаць ня будзем), а зараз — толькі адсоткаў 30 па-беларуску.*

*Не магу зразумець пазыцыю рэдкалегіі. Там жа амаль усе нашы, беларускамоўныя. Ня дурні ж яны, павінны разумець сытуацыю. Дзе іхны голас? Няўжо ж Падгайны й Пазьняк (каторы А.Г.) маюць там большую вагу, чым астатнія чатырнаццаць, уключаючы сталых аўтараў «НН» Шніпа і Рублеўскую? Дык што яны ў такім разе там робяць? «Дзеці есьці просяць»? Даруйце злосны тон, але ўжо апрыкрала. Выйсьце? Па-першае, болей «Першацьвет» не купляю, хай сабе гэта й неадчувальна будзе для яго. Па-другое, трэба*

пазытывы

# ПРАЕКТЫ ШЧАСЬЦЯ

З таямнічых глыбіняў Расеі зьявіліся раптам «новыя людзі» сп.А.Іларыёнаў і Г.Грэф. Убачылі іх нашыя лібэралы і ўзрадаваліся. Вой, якая ў Маскве праграма дзеяньняў ураду на 10 гадоў — як у Гаўла зь Пінaчэтам! Пасябруем, і ў нас такая будзе.

Яно можа і сапраўды, файная тая праграма, але ніводная загадкавая руская душа не адкажа, колькі за дзесяць гадоў зьменіцца ў трэцім Рыме ўрадаў і чаму. Між тым, нам гэта істотна. Адным краем Расея навекі да Беларусі прыточаная. І ці то там Ельцын з «Газпрамам», ці там Пуцін з «Ітэрай», Расея для нас застаецца крыніцай сыравіны і рынкам збыту. Мусім з усімі дамаўляцца. Хоць цалавацца не абавязкова.

А з праграмамі дзеяньня ўраду — як з парадамі наконт здаровага жыцьця: усім вядома, што рабіць, а атрымліваецца ў адзінак. Вось, прыкладам, беларуская пэнсіі. Ужо дзесяць гадоў толькі гаворкі пра пэрсаніфікаваны ўлік ды спэцыялізаваныя пэнсійныя фонды. Праўда, боек з амонамі на глебе барацьбы за правы райсабесаў чамусьці не назіраецца, дарэчы, як і фондаў.

Чаму? Бо жыцьцё інэртнае, яно спакваля спараджае тэхналёгіі, няхай сабе нудныя і заганныя, але ж звыклыя кожнаму іх удзельніку. Зьнянацку гэты каўтун з законаў, падаткаў, устаноў, прывілеяў і інтарэсаў не разблытаеш.

Уявіце сабе, што каб пэрсанальна ўлічыць пэнсіянэраў, трэба кожнаму зь іх надаць парадкавы нумар. Аб чым пытаньне: друкуй тры-чатыры мільёны картак. А можа лепей такіх, як тэлефонныя, накшталт амэрыканскіх, а да іх кампутары, а да кампутараў праграмістых, а да іх кантралёраў... Ды дзе там, кампутары... У нас яшчэ й пашпартоў аднолькавых няма.

Грошай на пэнсіі ўсё меней. Фонд сацыяльнай абароны мае рэзэрвы на пару тыдняў. Было б добра, калі б меў на паўгады. Дык няма ж адкуль браць, бо пратэрміноўка па страхавых адлічэньнях складае ужо блізка 10% ад выплатаў на наступны месяц, а яны складуць каля 60 млрд. руб. Дарэчы, і па зарплаце таксама.



Дый наагул, ці варта распрацоўваць новыя сыстэмы назапашваньня грошай на старасьць, калі іх у маладосьці не стае кожнаму другому працоўнаму на задавальненьне элемэнтарных патрэбаў. Нездарма статыстыкі ўжо абяцаюць умоўна-сярэдняму беларускаму мужчыну, што да пэнсіі ён не дажыве. Цікава, што можна сказаць пра будучыню ў тыя часы, калі спажывальне паловы дзяцей ніжэйшае за пражыцьцёвы мінімум, на сёньняшні дзень меншае за 788 руб. 20 кап. на дзень. Чым можна натхніць іхных бацькоў на плённую працу? Хіба што паведамленьнем пра запушчаныя заводы і посьпехі інтэграцыі.

Але ж, досыць аб сумным. **З 1 траўня 2000 году пачынае працаваць Дэкрэт №11 ад 12.04.2000. Які прадугледжвае мінімальную пэнсію па ўзросьце ў памеры 197 руб. 07 кап. на дзень. Героі нашага народу атрымаюць прыбаўку да пэнсіі ў пяць разоў, інваліды ў чатыры, партызаны і інтэрнацыяналісты ў два с паловай разы большую за вызначаны мінімум.**

Яшчэ мноства людзей, што адваявалі нашу волю і пацярпелі ад ворагаў, атрымаюць прыбаўку ад дзяржавы, г.зн. ад кожнага з нас. Такім чынам сярэдні памер пэнсіі складзе тры чвэрці ад пражыцьцёвага мінімуму. І нам чамусьці ня будзе сорамна. Можа таму, што мы ня пішам праектаў шчасьця, а толькі слухаем, куды павядуць.

СМІ паведамляюць, што 12 траўня нас пазнаёмяць з праграмай дзеяньняў беларускага ўраду ў выкананьні новага прэм'ер-міністра.

**Міхал Залескі**

*неяк падтрымліваць сапраўды беларускія выданьні, таму падпісваю двух сваіх знаёмых на «Нашу Ніву». Па-трэцяе, прапаноўваю час ад часу зьмяшчаць на вашых старонках сьпісы з адрасамі рэгіянальных выданьняў кшталту «Калосься», каб было куды дасылаць творы нашым маладым. Хай сабе там і ня плоцяць ганарараў, хіба ж для пачаткоўца гэта галоўнае? Не пішу ў сам «Першацьвет», бо ведаю іх адказ: спасылкі на рэфэрэндум, vox populi, на правы чалавека нават. Іх выбар зроблены, і мяжа пяройдзена.*

**Сьвятлана Пячкова, Бабруйск**

## Два гаспадары

*Добры ў пасёлку Нарач базар — еш вэнджаныя прысмакі ды півам запівай. Хвалі выкінуць вугра на бераг, мясцовыя прадпрымальнікі зьвяндзяць умомант, купляй ды ня вельмі зь імі таргуйся, бо тавар у іх першы сорт — дарма што рыба здохла яшчэ ў возеры, атручаная невядома чым. Мясцовыя гаспадары клапоцяцца пра ваш страўнік, таму і забараніл прадаваць тую рыбу адкрыта, а вось употай можна. Леташнім жнiўнем граблямі сьпіхвалі тых вугроў і паціху зарывалі ў зямлю, каб ня кідалася ў вочы высокаму начальству. Баяцца, што пачнецца гамонка ды дойдзе, крый Бог, да Менску, тады складуць камісію, якой тут ня надта чакаюць.*

*На кожным кроку бітыя слоікі ды жалеза, ногі ўраз скалечыш. Возера хмызьняком зарасло. Узьбярэжжа Нарачы не падобнае да «Беларускага нацыянальнага парку». Трэба нешта рабіць. Забараніць, напрыклад, малочнаму камбінату і сьпіртзаводу сайгасу «Нарач» зьліваць свае адкіды ў возера. Ці рабілі б, скажам, з хмызьняку кошыкі — і возера чысьцейшае будзе, і грошы.*

*Пытаюся ў галоўнага лясьнічага С.Ярашэвіча пра скалечаныя абрэзкаю дрэвы на беразе: «Чаму вы не перашкодзілі гэтаму злачынству?» — і чую адказ, што гэта ня іхныя справы. Дык хто вінаваты? Зьвяртаюся ў Мядзельскі экалягічны цэнтар: чаму загінула столькі рыбы, ажно машынай звозілі? Кажуць: віною сьпякотнае лета, маўляў, вада ў возеры ледзь не кіпела, вось вугар і гінуў. Усе бачаць сьцёкі бруднай вады, бачаць і марскі кацер нейкага чыноўніка — а спытацца няма з каго.*

*А ёсьць жа ажно два гаспадары — адказны за экалягічны стан Тарасёнак зь Мядзельскага выканкаму ды Шчарбіцкі, старшыня пассавету «Нарач». Але яны паказваюць адзін на аднаго ды кажуць, што зямля гэтая належыць іншаму і лезьці ў чужыя справы не выпадае. Замнога, відаць, у Нарачы гаспадароў.*

**Аляксандар Паскробышаў, пас.Нарач**

## «Адпачынак» паняволі

*Непадалёк ад Маларыты, што на Берасьцейшчыне, ёсьць летнік для дзетак усяго раёну. Раней там працавалі студэнты зь Берасьцейскага ўнівэрсытэту. Але нехта вырашыў, што тыя ня вельмі старанна працуюць і няможна іх болей туды адпраўляць. (Калі студэнты не спраўляюцца зь дзецьмі, што ж гэта будуць за настаўнікі?!) Але быў загад — і выхавацелямі ў летніку мусяць быць гарадзкія настаўнікі.*

*Але й настаўнікі ня надта рады правесьці 20 дзён (адну зьмену) на прыродзе ды на гатовых харчах. Чаму? Перш за ўсё, плоцяць ім як за 6 гадзін, а дзецьмі ў летніку займацца трэба цэлыя суткі. Па-другое, пэдагогам прапануюць браць з сабою сваіх дзетак і нават абяцаюць бясплатныя пуцёўкі. Толькі летась некаторыя жанчыны працавалі на такіх умовах, а пасьля зь іх вылічылі грошы за пуцёўкі. Ня вераць людзі такім абяцанкам.*

*Аднак ніхто й не пярэчыць, бо нязгодным прапануюць шукаць іншае працы. Вядома, што ў належны час 18 настаўнікаў выправяцца на «адпачынак» у летнік.*

**В.Ш., Маларыта**

# ЗЫНГЕРАЎСКАЯ ЛІХАМАНКА



Апошнім часам у Баранавічах пачалі шалёна скупляць даваенныя швэйныя машынкі нямецкай кампаніі *Zinger*. Кошты вагаюцца ад 100 да 1000$ за машынку. Кажуць, што ў Менску кошты ў некалькі разоў вышэйшыя. Здаецца, шукае іх усё маладое насельніцтва ... навакольна гораду. Прынамсі ў мяне за апошні месяц пыталіся разоў з 20, прытым людзі, якія ня тое што ніколі не займаліся калекцыянаваньнем, але ж былі абыкавыя да старых рэчаў.

Мяне зацікавіў гэты гармідар — няўжо моладзь вырашыла паавальна займацца зьбіральніцтвам швэйных машынак, ці заходняя мода й наша жабрацтва прымусіла брацца за шаўцтва?

Першыя апытаньні нічога новага не прынесьлі — усіх цікавілі толькі нямецкія машынкі й толькі фірмы *Zinger*. Іншыя маркі, разнастайныя «кайзэры», нікому не патрэбныя. Як мне патлумачылі, трэба, каб была асаблівая адзнака на корпусе машынкі ў выглядзе літаркі **Z** у авале й назва цалкам паміж ножкамі зынгера.

Машынкі пачалі выпускацца напрыканцы 1860-х гадоў аднайменнай фірмай. Некаторыя «знаўцы» сьцьвярджаюць, што зьбіралі іх рукамі, што некаторыя часткі машынкі з каштоўнага і трывалага мэталу палядыю, што цяпер немцы вырашылі вярнуць на радзіму ўсе выпускі швэйнай машынкі, што ў Нямеччыне плоцяць за іх ад 3000 да 10000$.

Ня ведаю, што тут праўда, што не. Сам бачыў, як бабуля магла прашыць зынгераўскай машынкай любую тканіну й скуру. Шылі на іх нават буркі з шынялёў. Тую машынку завезьлі зь Нямеччыны ў адну зь мясцовых габрэйскіх крамаў, там і набыла яе мая бабуля ў маладосьці. Вайну машынка перабыла закапаная ў зямлі, пасьля чаго ёй давялося замяніць драўляны столік. Мэханізм жа спраўна працуе да гэтага часу.

У Заходняй Беларусі зынгеры збольшага зьявіліся за панскай Польшчай. На Ўсход на прывозілі іх салдаты, што вярталіся зь Нямеччыны ў 1945 годзе — як трафэі.

Цяперака нібыта немцы ў парыве патрыятызму і калекцыянаваньня пачалі скупляць тыя машынкі. Такая вэрсія, мабыць, задавальняе большасьць паляўнічых на зынгеры. Зрэшты, адзін зь іх сказаў мне, што яму наагул усё роўна, нашто тыя зынгеры ды каму патрэбныя — галоўнае, каб за гэта плацілі грошы. Нешта падобнае можна было назіраць колькі гадоў таму, калі палявалі каляровыя мэталы.

Сноўдаюць хлапцы па Беларусі, здабываюць зынгеры — дзе за грошы, дзе крадзяжом, дзе запалохваньнем, а дзе й забойствам. Прадаюць іх пасьля іншым, а тыя...

Згадваю, што чытаў у адной расейскай газэце больш за год таму артыкул з назвай кшталту «Пiліце Зынгеры — яны залатыя». Быццам бы за Гітлерам, ратуючы каштоўнасьці, нямецкія габрэі распачалі пераплаўку золата ў станіны зынгераўскіх машынак. Дадумаць можна самому — жыдоў фашысты зьнішчылі, рэчы пазабіралі сабе, пасьля прыйшлі савецкія войскі й перацягнулі палову Нямеччыны ў Саюз... Таму ня выключана, што скупленыя машынкі расьпільваюць, не вывозячы на радзіму.

А нам што, абы плацілі...

**Руслан Равяка, Баранавічы**

# РУСКІ ГОРАД ГРОДНА

На пачатку 90-х Горадня ўпэўнена крочыла наперадзе ў справе вяртаньня беларускай мовы ў школы. У 1991 навучальным годзе ў 126 беларускіх першых клясах вучыліся 3322 школьнікі. 1155 вучняў наведвалі аналягічныя клясы з расейскай мовай навучаньня. Пры гэтым 1184 з 2502 настаўнікаў і выхавальнікаў не валодалі беларускай мовай. Многія зь іх, у тым ліку й беларусы, паставіліся варожа да неабходнасьці перавучвацца.

Крыжовы паход супраць беларускай мовы ўзначалілі гарластыя жонкі савецкіх афіцэраў, накіраваных на армейскую службу ў гарнізоны Горадні з усяго «Саюзу». Яны падбухторвалі нехлямяжых беларусаў, перадавалі бацькам празь дзяцей цыдулкі для падпісаньня адпаведных заяваў і пэтыцыяў. Пачаліся хаджэньні ў рэдакцыі газэтаў, цяжкія гутаркі ў кабінэтах райана. Але апошнія не давалі перавадзіць школы на расейскую мову, трымаліся закону аб мовах.

З часам у горадзе пачалі зьяўляцца шыльды па-беларуску. У тралейбусах і аўтобусах усё часьцей кіроўцы аб'яўлялі прыпынкі на беларускай мове. Тагачасны старшыня аблвыканкаму Дзьмітры Арцымень і старшыня абласнога Савету Сямён Домаш вялі пасяджэньні па-беларуску. Чыноўнікі меншага рангу бралі прыклад з кіраўнікоў. Курсы па вывучэньні матчынай мовы былі арганізаваныя ў вайсковых частках...

У 1995 годзе ў школах горадy на беларускай мове вучыліся 29,4% школьнікаў. Гэта 13315 чалавек з агульнай колькасьці 45357. За год лічба зьнізілася да 22,3%. Яшчэ за год — да 17,9%. У 1998-м навучальным годзе ў Ленінскім раёне Горадні ў першую клясу зь беларускай мовай навучаньня паступілі ўсяго 45 вучняў (3,3%). Яшчэ 17 дзетак (1,4%) прынялі ў падрыхтоўчыя клясы. У той жа час расейскамоўныя першыя клясы прынялі 1291 школьнікі (93,5%), падрыхтоўчыя — 1166 (97,4%). Польскамоўная першая кляса, для параўнаньня, папоўнілася 44 вучнямі (3,2%). Чатырнаццаць дзяцей (1,2%) з польскіх сем'яў прыйшлі ў падрыхтоўчую клясу.

У 1999 годзе ў школах Ленінскага раёну Горадні не набралі ніводнае падрыхтоўчае беларускамоўнае клясы. Затое ў расейскамоўных — 1760 вучняў (97,1%). Мае сваю падрыхтоўчую клясу і польская грамада. Яе наведвацуь 52 школьнікі (2,9%). У першай клясе зь беларускай мовай навучаньня займаюцца ўсяго 15 дзетак (1,3%). Роўна столькі ж і ў польскай клясе. Астатнія 97,4% вучацца па-расейску. Гэта 1168 чалавек. У Кастрычніцкім раёне абласнога цэнтру няма ні падрыхтоўчых, ні першых-другіх беларускамоўных пачатковых клясаў. У трэцяй па-беларуску вучацца 16 школьнікаў, у чацьвертай — 38.

Усяго ў Горадні цяпер 87,58% вучняў займаюцца па-расейску, 12,42% — па-беларуску.

Чаго не зрабіў расейскі штых, зрабілі расейскія тэлебачаньне й радыё.

**Антон Лабовіч, Горадня**

# *СЛАВЯНАРАСІЗМ*

20 сакавіка ў Беларускі Гельсынскі Камітэт зьвярнулася жыхарка Барысава Анастасія Арасланава са скаргаю на працяглае цкаваньне яе мужа — Салавата Арасланава: «Пасьля актаў тэрарызму ў Маскве кожны міліцыянт лічыць за абавязак спыніць мужа (ён башкір), спраўдзіць дакумэнты, абшукаць, абразіць, прынізіць. Нярэдка супрацоўнікі міліцыі кажуць яму, што ненавідзяць усіх нярускіх». 23 лістапада 1999 году Салават Арасланаў быў затрыманы міліцэйскім нарадам у пары крокаў ад дому. Супрацоўнікі міліцыі запатрабавалі ў яго дакумэнты, сп. Арасланаў паказаў пасьведчаньне вэтэрана афганскае вайны. Міліцыянты пачалі насьміхацца зь яго, потым зацягнулі на прахадную заводу безалькагольных вырабаў, дзе абшукалі і жорстка зьбілі. У рэчах Арасланава была знойдзеная сувэнірная сякерка, зь якою ён езьдзіў зьбіваць наледзь зь дзьвярэй леціпча. Гэтая сякерка зусім разьюшыла міліцыянтаў.

Сп. Арасланаў пахаваў у красавіку 1998 году сына-афіцэра, з тае нагоды моцна абсунуўся і пастарэў. Здало сэрца. Аднак паводле сьведчаньняў трох супрацоўнікаў міліцыі, ён на іх напаў і пабіў. Сам Арасланаў сьцьвярджае, што трое маладых міліцыянтаў білі яго, як везьлі на экспэртызу, білі па дарозе ў пастарунак. Тыдзень пасьля арышту Арасланаў ляжаў пластом у КПЗ Барысаўскага ГАЎС, бо ў яго паламаныя скабы, адбітыя ныркі, і ногі ня ходзяць. Дарэмна жонка патрабавала мэдычнага агляду. Дарэмна зьвярталася да пракурора, сьледчага, міліцэйскіх чыноў. У адказ яе папрасілі болей не пісаць, а ўзамен, маўляў, выпусцяць мужа.

За С.Арасланава хадайнічала кіраўніцтва Беларускага Зьвязу Вэтэранаў афганскай вайны, а таксама гарадзкога цэнтру тэхнічнае творчасьці юнацтва, дзе ён працуе. Марна. Чалавек дасюль сядзіць у СІЗА.

Фашызм — трасца, якая трасе ўсе слаі грамадзтва, асабліва малаадукаваныя й цёмныя. Паводле фашысцкае ідэалёгіі, людзі разьдзяляюцца на *Ubermensch*'аў і *Untermensch*'аў — звышчалавекаў і недачалавекаў. У нашым выпадку з радыё й тэлевізіі, з газэтных публікацыяў і чыначынскіх выступаў можна ўведаць пра нейкую асаблівую місію славянаў, пра іхную небывалую маральную чысьціню і «падзьвіжніцтва». Гэтыя ўсхваленьні славянскіх цнотаў маюць на мэце маніпуляцыю масавай сьвядомасьцю. Захваленыя лісьліваю хлусьнёю, людзі кінуцца на «чарнажопых», «жыдоў», «прадажных беларускіх нацыяналістаў» і забудуцца на свае праблемы.

**Сьвятлана Курс**



У мінулым нумары «Нашай Нівы» (№ 17) на 3-й паласе зьмешчаны фотаздымак Ігара Кірына. А ў папярэднім нумары (16) на 4-ай паласе зьмешчаны здымак Дзяніса Носава. Прыносім прабачэньні аўтарам фотаздымкаў за памылковыя подпісы.

*Рэдакцыя «НН»*

# ЧОРНА-БЕЛЫЯ ПРАБЛЕМЫ

На што скардзяцца замежныя турысты пад час падарожжаў па Зымбабвэ? На крыважэрных рэптыліяў, атрутных маскітаў ды нападзікіх насельнікаў? Вось і не. Скардзяцца яны на тое, што ў тамтэйшых крамах ня вельмі ахвотна прымаюць крэдытныя карткі *American Express*, а вось *Master Card* ды *Visa* ідуць «на гура». Стэрэатып адсталай Афрыкі трывала засеў у нашай сьвядомасьці, хаця самі мы зь цяжкасьцю разумеем, што гэта за крэдытныя карткі такія, а колькасьць тэрміналаў для іх прыёму ў нас не нашмат перавышае колькасьць беларусаў, якія імі стала карыстаюцца.

Незалежнасьць Зымбабвэ атрымала дваццаць пяць гадоў таму. У 1980 годзе да ўлады прыйшоў прэзыдэнт Мугабэ, які, як любы паважны народны абраньнік маладой краіны, сядзіць на сваёй пасадзе ўжо дваццаць гадоў.

Белыя прыйшлі на зямлі сучаснага Зымбабвэ ў васмідзясятыя гады XIX ст., і плямёны машона, якія насялялі абшары, мусілі пацясьніцца, пераканаючы аргумэнтамі шроту ды пораху. Цікава, што крыху раней самі машона гэткім жа спосабам прымусілі пакінуць свае землі іншыя не-зулускія плямёны.

Яшчэ тры гаду таму на Зымбабвэ паглядалі як на афрыканскі эканамічны цуд. Эканамічны рост быў стабільна роўны 8%, інвэстыцыі цяклі ракой. Асабліва



шмат грошай прыносілі плянтацыі тытуню. Увогуле, Зымбабвэ — аграрная краіна. 70% урадлівых земляў належыць белым, якія складаюць 0,6% насельніцтва, прычым становіцца белых усё меней і меней, бо сёньня ў Зымбабвэ мець белую скуру бывае дужа невыгадна, а часам і небясьпечна.

Мугабэ ўсяляк падтрымлівае ўпэўненасьць чорнага зымбабвійскага плебсу ў тым, што белыя скралі ягоную зямлю (што, па шчырасьці, недалёка ад праўды) ды перакананьне, што быць багатым азначае валодаць зямлёй, а ня ўмець ёю з розумам распараджацца. Урад паспрабаваў наладзіць зямельны голад шляхам скупкі вольных надзелаў ды раздачы іх вэтэранам Зымбабвійскай вялікай айчыннай вайны за вызваленьне, але новыя фэрмы мелі схільнасьць дзіўным чынам пераходзіць у рукі высокіх дзяржаўных чыноўнікаў ці прыходзіць да поўнага заняпаду ў новых нядбайных ды неспрактыкаваных гаспадароў.

Пачаліся эканамічныя праблемы. Зымбабвійская апазыцыя аб'ядналася ды пачала вінаваціць Мугабэ ў 50-адсоткавым узроўні інфляцыі, 50-адсоткавым беспрацоўі ды перабоях з палівам. Набліжаліся выбары, а цёплую, наседжаную за дваццаць гадоў кіраваньня пасаду ўсім любага прэзыдэнта трэ было ратаваць. (Зрэшты, не такога і «любага» — на рэфэрэндуме, зьніцьяваным Мугабэ сёлета ў лютым, каб замацаваць ягоныя паўнамоцтвы ды падтрымку, народ, нечакана для прэзыдэнта, сказаў «не».)

У такіх умовах і пачалося падбухторваньне да незаконнай акупацыі фэрмаў чорнымі зымбабвійцамі. Мугабэ назваў белых зымбабвійцаў ворагамі дзяржавы ды абвінаваціў іх у тым, што яны самі справакавалі сутыкненьні. Прагляданца сувязь паміж атакамі на апазыцыйны Зымбабвійскі Рух Дэмакратычных Зьменаў ды захопамі фэрмаў: белыя фэрмэры былі асноўнымі фундатарамі руху.

Пытаньне пераразьмеркаваньня зямлі лунала ў паветры з таго часу, як Зымбабвэ сталася незалежнай краінай. Зараз яно было ўмела скарыстанае кіраўніком краіны. Зымбабвэ ніколі не было месцам расавай талерантнасьці. Белыя працадаўцы плоцяць найменш — нават пакаёўка ў Харарэ, сталіцы Зымбабвэ, атрымлівае больш, чым чарнаскуры парабак у белага пана. Сярод белых пашыраныя расісцкія настроі. А таму чорнымі зымбабвійцамі лёгка маніпуляваць. Але белыя ўмеюць арганізоўваць прыбытковае гаспадараньне, белыя застаюцца патрэбнымі краіне.

Калі белыя пакінуць Зымбабвэ, там застануцца толькі чорныя. Застанецца й Мугабэ. Прэзыдэнтам краіны без гаспадароў.

**Алесь Кудрыцкі**



# ТРУПЫ АДПРАВЯЦЦА НА РАДЗІМУ

Вайна ў Чачэнскай Рэспубліцы пераатварылася ў партызанскую. Пра гэта сьведчаць апошнія паведамленьні расейскіх СМІ. У Вядзенскім раёне ўчора знайшлі трупы дзевяці пермскіх амонаўцаў, якія патрапілі ў чачэнскі палон 29 сакавіка. Тады паведамлялася, што ў засадзе загінула 39 амонаўцаў, а 9 прапалі бязь вестак. Уратаваліся ў той дзень толькі пяцёра. Расейскія вайскоўцы паведамляюць, што палонныя амонаўцы былі расстраляныя і пахаваныя каля вёскі Дарго, дзе іх цяпер і знайшлі. Паводле расейскіх інфармацыйных агенцтваў, «целы амонаўцаў будуць дастаўленыя ў Маздок для далейшай адпраўкі на радзіму». За што загінулі тут гэтыя хлопцы з далёкай паўночнай Расеі, яны, мабыць, ня ведалі і самі.

Пра партызанскі характар чачэнскага супраціву сьведчыць і новая ініцыятыва расейскага камандаваньня, якое на мінулым тыдні прыдумала зрабіць ахоўныя зоны абапал дарог. Дзеля гэтага з двух бакоў кожнай шашы на адлегласьць сто мэтраў будуць высякаць усе дрэвы.

Але ж усё новае — гэта добра забытае старое. Літаральна гэткую самую меру ўжывалі ў Беларусі і Літве карнікі графа Мураўёва-вешальніка супраць паўстанцаў 1863—64 гадоў. Толькі тады гаворка вялася пра 60 мэтраў. Вось і ўвесь «прагрэс». Увогуле занадта шмат падобнага знаходзіцца, калі параўноўваеш паўстаньне Кастуся Каліноўскага і цяперашнюю чачэнскую партызанку. Можа таму, што агрэсар застаецца той самы.

Сусьветная мілітарная навука толькі сьцьвярджае, што ў партызанскай вайне не бывае пераможцаў, але, мабыць, нічому ня вучыць.

**Алесь Кебік**

*На здымку: расейскія салдаты нясуць целы палеглых амонаўцаў.*

# Кіно і тайцы

У сталіцы Таіляндзе адбыўся самы працяглы па часе кінасэанс: 25 стужак на працягу 51 гадзіны. За свае пакуты гледачы атрымалі добрыя грошы — 2,5 тысячы даляраў кожнаму. У пачатку спаборніцтва ўзялі ўдзел 468 добраахвотнікаў. Ды толькі 64 зь іх дацягнулі да папярэдняга рэкорду (20 стужак за 37 гадзін 25 хвілін). А да галоўнага фінішу дайшлі толькі 14.

Самакатаваньне кантралявалася прадстаўнікамі «Кнігі рэкордаў Гінэса». Экспэрты сачылі за ўдзельнікамі конкурсу, выкарыстоўваючы інфрачырвоныя камэры. Напрыканцы сэансу пераможцаў адразу накіравалі на медагляд ня толькі дзеля аховы іх здароўя, але каб праверыць на допінг.

**Аляксей Ганецкі**

# ТРАГЕДЫЯ Ў КРЫЖОЎЦЫ

***Набліжаецца адна дата, пра якую наўрад ці зноў, ужо ў 23-ці раз, хто згадае...***

*Працяг са старонкі 1.*

Але ж усё па парадку.

З паваленага выгону немагчыма было выцягнуць людзей, не разрэзаўшы яго аўтагенам, што было зроблена амаль што праз гадзіну (выходныя ж!). Таму з гэтай людзкой «кансэрвы» засталося вельмі няшмат жывых. Мая маці казала, што калі ўжо ўсіх падаставалі, ахвяры, складзеныя радком асобна, займалі ўсю пляцформу. Вельмі пашчасьціла параненым, што ў той момант там быў добры спэцыяліст, доктар (вельмі сорамна, але забылася ягонае прозьвішча, а зьездзіць на Паўночныя могілкі, каб прыгадаць, не выпадае), які арганізаваў ратаваньне і адразу ставіў дакладны дыягназ кожнаму пацярпеламу, наказваў кіроўцам («хуткіх дапамог» не ставала, зьнялі таксапарк), куды каго везьці. Давялося яму і стварыць дружыну мужыкоў, каб баранілі мёртвых ад марадзёраў, якія павылезшы зь першых, не кранутых вагонаў, пачалі сваю мярзотную справу. Гэтае лета для нашага выратавальніка стала апошнім. Ён застаўся незадаволены вынікам сьледзтва, прысуду, наагул усім, што адбывалася вакол гэтай падзеі і як сумленны чалавек пачаў надакучваць «вярхам» сваімі пытаньнямі. Неўзабаве яго знайшлі мёртвага ў асабістым аўтамабілі зь перарэзанымі венамі. Маўляў, самагубства. Знайшоў у сябе анкалягічнае захворваньне і як спэцыяліст разумеў, што будзе. Яго родныя былі нязгодныя з такімі высновамі.

Лекары, вядома ж, рабілі ўсё магчымае і немагчымае. Але відавочна не ставала крыві, спэцыялістаў (асабліва па чэрапна-мазгавых траўмах, аб усялякіх псыхолягах тады наагул ня ведалі). І людзі яшчэ доўгі час пamiралі ў лякарнях.

Побач са мной у рэанімацыі ляжаў хлопец Валодзя, студэнт І курсу БПІ. Яго дзядзька і цётка, зь якімі ён ехаў, загінулі адразу, а ён памёр 9 траўня. Я толькі пачала вяртацца да жыцьця, ужо трохі бачыла, нешта разумела. Апрытомнела ад жудасных гукаў: недзе побач стагнаў і торгаўся ў агоніі чалавек, а з калідору, нібыта дзеля таго, каб заглушыць гэтыя стогны, нібыта, каб падтрымаць сьвяточны настрой паміраючых, несьліся жыцьцярадасныя пераможныя песьні і рэпартажы аб парадзе. І першая мая асэнсаваная думка: «Як жа дрэнна будзе маці гэтага хлопца, калі ўвечары пачнецца салют»...

А ці быў тады салют? Жалобы ж не было. Дарэчы, на Валодзевым помніку датай сьмерці чамусьці пазначана 1 траўня, хоць і намаляваныя рэйкі.

Далей будзе трошкі весялей. Ну, яшчэ крышачку ўвагі!

Разам са мной у вагоне быў мой прадзед. Чалавек, які меў шмат, потым усё страціў, прайшоў сталінскія лягеры, зрабіў для сябе слушную выснову, што лепей мець адносіны з расьлінамі, чым зь людзямі. З інжынэра-чыгуначніка ён перакваліфікаваўся на кветкавода і ўвесь свой час прысьвячаў ружам. Сам рабіў прышчэпкі, падкормкі, абрэзкі. Ствары непаўторны цуд фарбаў і пахаў. Мне тады здавалася, што не любіць дзядульку немагчыма. Не было чалавека, які б не прыпыніў крокаў перад яго кветнікам і не пажадаў здароўя майстру. Той толькі пасьміхаўся моўчкі ў вусы. Пражыўшы на сьвеце 94 гады, ён ужо ўсё пра ўсіх ведаў. Пасьля аварыі родзічы выбраліся на ўчастак толькі пад канец чэрвеня. І што ўбачылі? Гэты заўсёды квітнеючы лапічак зямлі быў чорны, нібыта пераробленыя кратамі. Усё вырылі і зьнесьлі. З тае пары я міжволі ўсе ружы параўноўваю з крыжоўскімі. Прыгажэйшых не сустракала.



*Сьвятлана Длатоўская, праз 7 гадоў пасьля трагедыі, і зараз, зь дзецьмі.*

Калі стала зразумела, што я буду жыць, лекары параілі бацьку неяк «заахвоціць» мяне, стымуляваць маё хутчэйшае выздараўленьне. Бацька палічыў, што самым лепшым будзе набыць швейную машынку. Напазычаў грошай ды пабег у фірмовую краму. Але далёкі ад усяго празаічнага, ён не ўлічыў, што тады набыць швейную машынку было цяжэй, чым аўтамабіль. Іх разьмяркоўвалі выключна вэтэранам, героям і то па спэцыяльных сьпісах. Дзяўчыны-прадавачкі паглядзелі на яго, як на вар'ята. А што рабіць, калі адзін дзед з вайны не вярнуўся, а другі памёр ад ранаў, не дачакаўшыся, калі яго ўнукам спатрэбіцца такі дэфіцыт? І бацька (мой бацька! Статны, высокі прыгажун, пагроза жаночым сэрцам), якому раптам усе перажываньні апошніх тыдняў сталі камяком у горле, зароў, як малое дзіцё, у тры ручаіны. На такое дзіва выбегла паглядзець загадчыца. Зразумеўшы, што тут нешта сур'ёзнае, супакоіла, выслухала, паабяцала дапамагчы. Так у мяне зьявілася «Мальва». Грукатлівы, нібы танк, агрэгат, зьмешчаны ў лякаваным тумбе з рэзкім пахам фармальдэгіду, сапраўдны «шэдэўр» савецкай вытворчасьці, які стаў мне і своеасаблівым трэнажорам, і проста вялікім дзіцячым шчасьцем. Што і казаць, зарабіла ўласнай крывёю.

Пасьля пережытага мы імкнуліся выкінуць з галавы хваробы, страхі. Дзякуй Богу, рукі-ногі засталіся на месцы. Вучылася і рабілі ўсё на ўзроўні зь іншымі і нават лепш. Але электрычка знаходзіла моманты, каб нагадаць аб сабе. Я была студэнткай, калі пасьля Чарнобылю праводзіліся бясконцыя мерапрыемствы па грамадзянскай абароне. І вось мяне, відаць, «мэтадам тыка», прызначылі на нейкія пакзальныя вучэньні, дзе трэ было на сьпец некуды бегчы ў супрацьгазе. Ведаючы, што і здаровым, моцным мужыкам такое не заўжды пад сілу, я проста спужалася. Дый адвечнае «Чаму я?» не давала спакою, тым больш што ВНУ было зусім не «жаночае». Куды зьвяртацца, каму і як тлумачыць пра нейкія падзеі 10-гадовай даўніны? Я кінулася да маці: «Няўжо не засталося ніякага пасьведчаньня?» Тая парылася недзе ў шафе і дастала зжаўцелую маленечкую даведку з 4-й лякарні, на якой не было ня тое што пячаткі, але й ніводнага салідная подпісу, акрамя «дзяж.м/с», дыягназ скарочаны і напісаны дзіцячым почыркам з артаграфічнымі памылкамі. Ісьці з такой паперкай да нашага «грамадзянскага абаронцы» было б самазабойствам. Давялося бегчы на родную катэдру, дзе нашу сям'ю ведалі, і выратавалі мяне, небараку.

Дарэчы, потым маці расказала, што дакументы былі. Заключэньні мэдыкаў аб атрыманых траўмах, праведзеных апэрацыях і лячэньні, усё як трэба. Але праз некаторы час пасьля выпіскі зь лякарні яе проста атакавала ўчастковая мэдсястра. Пагрозамі, сьлязьмі, праўдамі і няпраўдамі выпатрабавала паперы. Больш мы ня бачылі ні іх, ні нейкіх афіцыйна завераных згадак аб здарэньні ў амбуляторных картках. Відаць, быў загад усё зьнішчыць. Шукаць праўды сілы не было.

Наагул у гэтай аварыі засталося шмат незразумелага. У нашай радні былі спэцыялісты-чыгуначнікі. Дзядзька працаваў загадчыкам станцыі на Сумскай чыгунцы. Ён казаў, што, нягледзячы на замоўчваньне вынікаў, гэтае здарэньне паўсюдна разьбіралі як прыклад надзвычайнага становішча. І ніхто з дасьведчаных чыгуначнікаў не абвяргаў варыянту дывэрсіі. І вельмі мала хто верыў у няшчасны выпадак, халатнасьць.

Вось такой была дата 2.05.1977 г. у нашай, не такой ужо даўняй гісторыі. І вось такой крывавай стала маленькая станцыя Крыжоўка, якая б апраўдвала сваю назву, калі б там стаялі крыжы па ўсіх, хто тады ня выжыў. (Барані Божа! Гэта не прапанова, а параўнаньне).

І так і падмывае дапісаць: «Прывітаньне майму хірургу В.Рамановічу, цяпер вядомаму кардыёлягу!»

**Сьвятлана Длатоўская**

## калiндар

**2 траўня 1850 г.** зьліквідаваная Беларуская навучальная акруга. У свой час яна прыйшла на зьмену Віленскай акрузе, што была рэарганізаваная ў 1829 г. ў зьвязку з узмацненьнем польскага вызвольнага руху. Цэнтрам новай акругі стаў Віцебск. Паступова акруга ўключыла ўсе беларускія землі, у тым ліку і Беласточчыну. Кіраваньне акругай мусіў ажыцьцяўляць *папячыцель*, пры якім дзейнічала ўправа, што складалася з дырэктараў гімназіяў і ганаровых папячыцеляў. Першым папячыцелем быў Рыгор Карташэўскі (1829—1835), які распрацаваў праграму перабудовы школьнай адукацыі і прапанаваў стварыць у акрузе сетку пачатковых школ ва ўсіх павятовых гарадах і маёнтках. Пасьля ліквідацыі Беларускай навучальнай акругі Менская, Гарадзенская, Віленская губэрні ўвайшлі ў склад аднаўленай Віленскай навучальнай акругі, Віцебская і Магілёўская былі далучаныя на нейкі час да Пецярбурскай. Першым папячыцелем Віленскай акругі стаў генэрал ад артылеры Ільля Бібікаў, які праславіўся тым, што паўсюль бачыў "бунтаўшчыкоў" і "змоўшчыкаў".

**5 траўня 1825 г.** нарадзіўся жывапісец Фадзей (Тадэвуш) Гарэцкі, які пражыў кароткае жыцьцё — 43 гады. У Вільні ён вучыўся ў Валенція Ваньковіча, а потым працягнуў адукацыю ў Пецярбурзе, у тамтэйшай Акадэміі мастацтваў у Карла Брулова. Між іншым, ён дапамагаў Брулову размалёўваць Ісакіеўскі сабор. У 1848—49 г. і 1855 г. Гарэцкі жыў на Віцебшчыне, дзе, натуральна, маляваў карціны. З 1850 г. ён выехаў на сталае жыцьцё за мяжу. Самыя вядомыя ягоныя карціны: "Сьляпы жабрак з павадыром", "Споведзь маладой дзяўчыны ў ксяндза", "Апошняе прычасьце". За год да сьмерці, у 1867 г., ён прыехаў наведаць горад свайго дзяцінства — Вільню.

**6 траўня 1975 г.** памёр вугорскі каталіцкі кардынал Міндсэнці. Ён быў адным з сымбаляў непадпарадкаваньня камуністычнаму рэжыму ў Вугоршчыне. Напрыканцы 40-х г. быў прысуджаны да турэмнага пакараньня з наступным абвінавачаньнем у контррэвалюцыйнай дзейнасьці. У 1956 г. падчас вугорскай рэвалюцыі вызвалены, але дэмакратычныя сілы былі разьбітыя, і кардынал Міндсэнці схаваўся ад новага арышту ў амэрыканскай амбасадзе. Ватыкан, каб ня ўвязвацца ў канфлікт, адлучыў Міндсэнці ад царквы, але й гэта не зламала кардынала, які так і не прызнаў камуністычную дыктатуру.



**7 траўня 1925 г.** перастала біцца сэрца Барыса Савінкава, тэрарыста, антысавецчыка і пісьменьніка, якому належыць крылатае выслоўе: "Перамога толькі за тым, у чыіх руках меч". Савінкаў распачынаў як адзін з кіраўнікоў славутай "Баявой арганізацыі" эсэраў. Як і ягоныя калегі з партыі, ён змагаўся за новую Расею і быў прыхільнікам індывідуальнага тэрору. Шмат разоў рызыкаваў жыцьцём, кідаўся ў самую віхуру падзеяў, але заўжды быў спакойны і ветлівы зь людзьмі. У 1911 г. ён нечакана парывае зь сябрамі-тэрарыстамі і зьяжджае ў Парыж. Вяртаньне адбылося пасьля Лютаўскай рэвалюцыі. Але Кастрычніцкі пераварот перакрэсьліў усе мары. Савінкаў уваходзіць у кантакт зь лідэрамі Белага руху. Увосень 1918 г., пасьля заканчэньня першай сусьветнай вайны, ён выяжджае ў Парыж, на Вэрсальскую канфэрэнцыю, дзе дамаўляецца з прадстаўнікамі Брытаніі Ўінстанам Чэрчылем і Дэвідам Лойд-Джорджам наконт грашовай дапамогі Беламу руху. Пазьней у Варшаве са згоды Пілсудзкага Савінкаў ставрае Расейскі палітычны камітэт, які аб'ядноўвае ўсіх ворагаў Савецкай улады (дарэчы, у яго ўваходзіла і войска Булак-Балаховіча). Войска Булак-Балаховіча разам з атрадамі Савінкава рушыла на беларускае Палесьсе, вызваляючы яго ад бальшавікоў. У Мазыры Балаховіч здраджвае Савінкаву і абвяшчае пра стварэньне Беларускай рэспублікі. Хутка і ўласна Расейскі палітычны камітэт церпіць параз. Савінкаў мог спакойна застацца ў Варшаве, але ім кіравала прага вяртаньня на Радзіму. Ён пераходзіць польска-беларускую мяжу, ня ведаючы, што за ім сочаць савецкія спэцслужбы. У канспіратыўную кватэру ў Менску чэкісты ўламіліся ў той момант, калі Савінкаў сьнедаў. На судзе Барыс Савінкаў быў прысуджаны да 10 гадоў турмы, і, паводле адной з вэрсіяў, скончыў жыцьцё самагубствам, а паводле другой — быў забіты ў Менску.




**У 1975 г. 9 траўня** жыды-дысыдэнты арганізавалі ў Менску ля так званай "Ямы", дзе стаіць помнік пяці тысячам менскіх жыдоў, забітых 2 сакавіка 1942 году, першы несанкцыянаваны жалобны мітынг. І раней тутака сабіраліся людзі, але ніколі — адкрыта і арганізавана. На мітынгу выступіў палкоўнік Яфім Давідовіч, адзін з найпершых актывістаў жыдоўскага руху ў Менску, які заклікаў супрацьстаяць антысэмітызму ў Савецкім Саюзе. Да наступнага Дня перамогі Давідовіч не дажыў двух тыдняў — чацьверты інфаркт. Ён не пабачыў, як у 1976 годзе ля помніка сабраліся ўжо некалькі тысячаў чалавек.

**Алег Гардзіенка**



# ЧЭМПІЯНАТ ПА ФАРТЭПІЯНА

Дзіўнае было ў мяне пачуцьцё: мазахісцкая асалода ад нейкай неўсьвядомленай паразы, але адначасова — трыюмф перамогі. Тлумы ў залі, падвойны кантроль білетаў, авацыі, сьлёзы, кветкі, безьліч бутэлек ад «Дарыды», якою сябры журы спатольвалі сваю прагу вялікіх эмоцыяў... Такім застанецца ў маёй памяці Міжнародны конкурс піяністаў «Менск-2000».

Усё было нібыта дасканала. Адкуль жа ў мяне гэты горкі прысмак расчараваньня?

«Менск-2000» нарадзіўся не на пустым месцы. Спачатку быў Першы міжнародны конкурс «Фартэпіяна. Менск-1996». Гэта была сэнсацыя. Тады мы ледзь не ўпершыню ўбачылі сябе зьдзіўленымі вачыма нашых гасьцей, якія зусім не чакалі знайсьці тут музычнае Эльдарада.

Мы так спадабаліся самі сабе, што стварылі з гэтага конкурсу прыгожую легенду і чакалі, што яна паўторыцца ў рэчаіснасьці. Мы глядзелі на тыя падзеі праз ружовыя акуляры, і глядзелі так доўга, што нават суцэльна чорныя прадметы ператварыліся ў прыемна-бардовыя. Не заўважалі, што той конкурс не адкрыў аніводнай яскравай індывідуальнасьці: адзінай ягонай сапраўднай падзеяй быў 29-гадовы Андрэй Сікорскі, які стаўся ляўрэатам першай прэміі яшчэ да пачатку жараб'ёўкі. Заплюшчвалі вочы на тое, што адзін з тагачасных пераможцаў — прасьцецкі, каза і таленавіты хлапец, заўсёды крышачку «пад шафэ» — зусім не надаецца на артыста. Аматары музыкі памятаюць: у антракце паміж праслухоўваньнямі ў яго стралялі з газавага пісталету; цяпер ён гандлюе на базары.

Дый увогуле, калі захоўваць цьвярозасьць, дык становіцца цалкам відавочна, што «крыміналу» — у сэнсе музычнага прафэсіяналізму — на сёлетнім конкурсе было значна менш, чым тры з паловаю гады таму.

Хаця не абышлося без курьёзаў. Адна маладая дама, якая цяпер жыве ў Нямеччыне, прыехала на конкурс, мабыць, толькі дзеля таго, каб зьдзівіць былых аднаклясьнікаў моднымі сукенкамі. Спачатку яна зьявілася на сцэне ў чымсьці блакітна-дымчата-шэрым, празрыстым і са шлейфам; потым — у чорным і зноў празрыстым. Напэўна, у яе былі падрыхтаваныя сукенкі і для фіналу, і для заключнага канцэрту, але журы не захацела болей слухаць, як яна старанна закалочвае пальцамі клявішы. Журы размеркавала па-свойму, і ў фінал трапілі дзяўчаты, у якіх няма ніводнай сукенкі, і яны выступалі ў пляжных майках і старых абшарпаных споднях.

Адзін выкладчык музычнай школы з райцэнтру вельмі бязладна сыграў славутае бэтховэнскае ронда «Злосьць з нагоды згубленага гроша», пакланіўся і пайшоў са сцэны. У залі павісла ціша. Ці мо чалавек нарэшце зразумеў, які зь яго піяніст, і пабег на электрычку? Паводле конкурснай праграмы, ён мусіў сыграць яшчэ два эцюды і абавязковую п'есу беларускага кампазытара. Здавалася, на нашых вачах разгортвалася трагедыя. Чаканьне доўжылася тры хвіліны. Потым за кулісы адправіўся адказны сакратар журы. А яшчэ праз нейкі час аднекуль зьявіўся мужык у рабочым адзеньні, адсунуў у глыбіню сцэны навюткі «Стэйнвэй», на якім іграла пераважная большасьць удзельнікаў конкурсу, і прыкаціў раяль для вэтэранаў — разношаны, як хатнія пантофлі. Ах, вось у чым справа! Піяністу не падабаўся раяль! Народ ажывіўся і стаў чакаць эцюдаў. І тут з-за кулісаў — спакойны і сам зь сябе задаволены — зьявіўся віноўнік усёй гэтай мітусьні, усьміхнуўся ў бок публікі і зноў зайграў сваю бязладную «Злосьць», тым разам яшчэ горш, чым напачатку.

Вы запытаецеся, як такое ўвогуле магло здарыцца? Тым болей, што небарака з гэткім самым посьпехам удзельнічаў і ў мінулым конкурсе. Адзіным выратаваньнем супраць такіх выпадкаў можа быць сыстэма папярэдняга адбору — ці праз відэакасэты, ці праз рэкамэндацыйныя лісты буйных музыкантаў — як гэта робіцца на салідных музычных спаборніцтвах.

Але, каб рабіць адбор, трэба мець, з каго выбіраць. Між тым, сёлета ў аргкамітэт паступіла ўсяго толькі 85 заяваў, а рэальных удзельнікаў было 42 — у два разы менш, чым на мінулым конкурсе! Проста цуд, што ў гэткіх абставінах I тур праходзіў даволі гладка: нават найнуднейшыя выступленьні канкурсантаў болей ці меней адпавядалі строгім акадэмічным крытэрам. Зрэшты, больш за палову сёлетніх удзельнікаў загадзя ўзброіліся якім-ліба ляўрэацкім тытулам — хай нават зь міжнароднага конкурсу ў вёсцы Нью-Аўсюкі. У мінулы раз такіх людзей было меней за трэць. Відавочны прагрэс!

«А калі прагрэс, дык чаму акурат палова цяперашніх фіналістаў у мінулым конкурсе ня трапілі нават на другі тур?» — зьедліва дапытваюцца скептыкі. Але што ж тут дзіўнага? Моладзь з часам сталее, набывае рэпутацыю... І вось вам яскравы прыклад. Сёлетні выпускнік Акадэміі Музыкі Канстанцін Красьніцкі яшчэ ня так даўно лічыўся звычайным чацьверачнікам, і ледзь ня ўся Акадэмія пацяшалася зь ягоных конкурсных амбіцыяў. І раптам ён здабыў галоўны прыз — ня дзесьці там у Аўсюках, а на Першым Міжнародным конкурсе Эўрапейскай асацыяцыі пэдагогаў фартэпіяна ў Загрэбе. Цягам некалькіх месяцаў навасьпечаны ляўрэат пасьпеў пабываць на гастролях у Нарвэгіі, Даніі, Нямеччыне, Турцыі... Вось і сталася, што аўтарытэтныя кансэрваторскія выкладчыкі, якія раней запаліся адмаўлялі Красьніцкаму ў таленце, цяпер зь ня меншым энтузіязмам прадракалі яму першую прэмію — ужо дома.

Пэдагогі зноў памыліліся: Красьніцкаму прыйшлося задаволіцца дыплёмам. Між тым, сапраўдны пераможца быў у іх літаральна пад носам. У самым простым сэнсе гэтага слова, бо ім аказаўся 16-гадовы хлапец — вучань X клясы Рэспубліканскага комплексу гімназія-коледж пры Беларускай Акадэміі Музыкі, такі малы, што ледзь дасягаў старшыні журы да падбародзьдзя. У II туры, калі Аляксандар Музыкантаў зайграў Шостую санату Пракоф'ева — адзін з найцяжэйшых твораў у сусьветнай фартэпіяннай літаратуры — і пракоф'еўскія дысанансы дзіўным чынам ператварыліся ў гармонію, да яго сталі прыслухоўвацца. І было відочна — у гэтым хлапцы жыве дух музыкі.

А на пачатку III туру ягоная перавага акрэсьлілася найбольш выразна.

Тутака варта патлумачыць, што ў сёлетнім конкурсе было два фіналы. Спачатку трэ было сыграць з камэрным аркестрам канцэрт Моцарта, і гэта сталася для фіналістаў цяжкім выпрабаваньнем. Тут не схаваесься за псэўдавіртуознымі прыёмамі, дэкаратыўным ускідваньнем рук і штучнай тэмпэрамэнтнасьцю. І цяпер усе зь нецярплівасьцю чакалі апошняга этапу — выкананьня канцэрту з сымфанічным аркестрам. І тутака шанцы Музыкантава здаваліся не найлепшымі.

Рэч у тым, што на ўсім абсягу былой маскоўскай музычнай імпэрыі існуе неписанае правіла: той, хто хоча здабыць галоўны прыз, мусіць іграць Першы канцэрт Чайкоўскага; той, хто гатоў задаволіцца другой ці трэцяй прэміяй, павінен спыніць свой выбар на Пракоф'еве ці Рахманінаве; а ўсе астатнія могуць выбіраць канцэрт паводле свайго густу і магчымасьцяў. З гэтай нагоды нам прыйшлося двойчы запар праслухаць рахманінаўскую «Рапсодыю на тэму Паганіні», а потым два разы — канцэрт Чайкоўскага. На гэтым фоне Музыкантаў са сваім Трэцім канцэртам Бэтховэна глядзеўся вельмі сьціплым прэтэндэнтам. Але зноў ён апынуўся найспрытнейшы. Законны вынік: ён і атрымаў першую прэмію. Другую аддалі Іне Салдаценцы з Украіны (канцэрт Чайкоўскага), трэцюю — Заруі Амбарцумян з Расеі (Чацьверты канцэрт Бэтховэна). Гэткім чынам, традыцыю парушылі, але раскладка атрымалася палітычна карэктнай: усім братнім рэспублікам-сёстрам па завушніцы, з тым маленькім удакладненьнем, што Заруі Амбарцумян прадстаўляла ня толькі Расею, але і Арменію.

Ці было гэткае рашэньне справядлівым? Асабіста я, слухаючы сёлетніх пераможцаў, адчувала да іх пашану. Відавочна, што цяпер ня толькі ў Маскве і Пецярбургу, але і ў іншых куткаў усходняй славяншчыны навучыліся іграць хутка і гучна, зь мінімальнай колькасьцю фальшывых нотаў.

Вось ляўрэатка другой прэміі Іна Салдаценка: нізенькая і кругленькая, як кітаянка, з тварам прыроджанай выдатніцы і з драбнюткімі спрытнымі пальчыкамі, якімі яна вельмі хуценька прабягала па клявіятуры, а часам умудралася выдаваць даволі гучныя акорды. Мэханістычна, але даволі эфэктна.

Ці ляўрэатка трэцяй прэміі Заруі Амбарцумян — тая самая дзяўчына, у якой пад час выкананьня лопнула струна: пра гэты выпадак у Менску хадзіла пагалоска. Дарэчы, яшчэ больш драматычнае здарэньне адбылося пад час выступленьня беларускага канкурсанта Расьціслава Крымера: проста над сцэнай гучна выбухнула перагрэтая лямпа, і аскепкі не пасыпаліся на ўсе бакі — ледзь не на раяль. Але малады піяніст, здаецца, гэтага нават і не заўважыў: ён спакойна працягваў іграць. Калі такая ж гісторыя здарылася з Рыхтэрам, публіка шалела ад захапленьня; усе былі зачараваныя ягонай «магічнай» засяроджанасьцю. А цяпер гэтага эпізоду ніхто не заўважыў. Так што можна лічыць, што гераізм на гэтым конкурсе быў звычайнаю зьявою.

Але Заруі Амбарцумян выбівалася за абсягі гэтай звычайнасьці. Ужо пасьля заканчэньня конкурсу я спазнала нешта накшталт шоку, даведаўшыся, што ў гэтай мілай, далікатнай дзяўчыны няма фалангі бязыменнага пальца на правай руцэ. Ці гэта сьлед цяжкіх жыцьцёвых выпрабаваньняў — жаху армянскіх пагромаў, галечы, выгнаньня? Не запытаесься. Так ці інакш, але я зразумела, чаму Заруі заўжды іграе так ціха і далікатна — праз боль. У параўнаньні зь іншымі канкурсантамі, у ейнай ігры было менш за ўсё бурлівых эмоцыяў. Сталы музыка, занадта «інтымны», каб добра іграць з аркестрам. Часам яна забывала тэкст, блыталася ў пасажах — найчысьцейшы антыпод таго стылю ігры, які лічыцца выйгрышным на конкурсах. І ўсё ж Заруі стала адной зь пераможцаў. Брава, журы!

Шкада толькі, што ў фінальны тур ня быў дапушчаны такі сур'ёзны музыкант, як Аляксандар Баравікоў, вучань XII клясы Рэспубліканскага комплексу гімназія-коледж пры Акадэміі музыкі. Здаецца, што, побач з Музыкантавым, гэта яшчэ адно вялізнае адкрыцьцё конкурсу «Менск-2000».

Але рашэньні журы трэба паважаць — тым больш такога журы, якое было ў нас сёлета: з такімі аўтарытэтнымі імпартнымі знакамітасьцямі, як Ары Варды і Дэніэл Полак. З гэткім журы можна згаджацца ці не згаджацца; але, мяркуючы хаця б па тым, што аніводзін з пачэсных судзьдзяў ня здолеў (ці не захацеў) працягнуць сваіх вучняў у фінал, усе яны працавалі надта сумленна. Здаецца, у нашых Палясьцінах мы яшчэ такога ня бачылі!

Што ж датычыць знакамітасьцяў, дык Дэніэл Полак нават зайграў для нашай публікі цэлы канцэрт з шапэнаўскіх твораў. Гэта было ў дзень адкрыцьця конкурсу; а першае, незабыўнае выступленьне Полака ў Менску адбылася ў 1958 годзе, незабаве пасьля ягонага посьпеху на Першым міжнародным конкурсе імя Чайкоўскага ў Маскве. Праўду кажучы, героем таго легендарнага музычнага спаборніцтва быў Ван Клібэрн; Полак, агульным меркаваньнем, цэліў на другую прэмію; але немагчыма нават уявіць, каб у тую эпоху два першыя месцы занялі амэрыканцы. Сёлета — праз 42 гады — ён ізноў у Менску, і зноў з жонкаю, якая ў свой час адмовілася ад уласнай кар'еры піяністкі выключна дзеля таго, каб ён мог спакойна займацца творчасьцю.

Але цяпер для прыезду ў Менск у яго была й асабістая нагода. Акурат у дні конкурсу споўнілася 100 гадоў з дня нараджэньня ягонага бацькі, Гірша Папалака, які калісьці жыў у Пінску, але зьехаў за акіян, спадзеючыся лепшага жыцьця. У памяць па бацьку Дэніэл Полак зайграў шапэнаўскую санату з славутым пахавальным маршам. Ён іграў геніяльна; ён асыпваў публіку асьляпляльнымі бісамі — як пазьней адорваў канвэртамі з грашыма ўсіх, хто яму падабаўся, — і перш за ўсё маленькага пераможцу. Гэта быў фэервэрк. А калі ўжо казаць пра грошы, дык Полак зь ягоным прыроджаным артыстызмам здолеў зрабіць геніяльную рэч: адарыць і ўзвысіць Пэдагога, Зою Качарскую, якая выхавала талент Аляксандра Музыкантава; а праз яе — і ўсіх іншых нашых выкладчыкаў.

А вось Ары Варды застаўся для ўсіх загадкаю. Гэты рафінаваны ізраільцянін — сусьветна вядомы піяніст, прафэсар некалькіх музычных акадэміяў і сябра самых аўтарытэтных конкурсных журы, спадзяваўся адшукаць у Слоніме магілы сваіх продкаў, але ўсе пошукі былі дарэмнымі (Полаку пашанцавала больш: ён знайшоў ня толькі магілу дзеда, але, здаецца, і дом, у якім жыла сям'я). Усе — і асабліва студэнты — страшэнна шкадавалі, што Варды не выступае з канцэртам; але ён нават ані разу не выказаўся публічна!

А цяпер ён зьехаў, і зьехалі ўсе тыя, з кім карцела паразмаўляць, але было нельга — конкурс! І мы засталіся сам-насам з нашым трыюмфам і нашай непазбыўнаю горычччу, бо трыюмф нашае фартэпіяннае школы адбываўся нібы ў суцэльнай пустэчы. Гасьцёў з па-за межаў былога СССР сярод удзельнікаў было толькі два чалавекі; нават нашыя суседзі — палякі, літоўцы і латышы — сёлета не прыехалі, хаця інфармацыя пра конкурс была дасланая ў 153 краіны сьвету. Нам кажуць, што многія спалохаліся занадта цяжкай конкурснай праграмы. Але чаму спалохаліся менавіта ў Варшаве і Гамбурзе, а не ў Маскве? Ці не таму, што людзі ў Эўропе глядзяць тэлевізар і бачаць, як на нашых вуліцах міліцыя зьбівае дэманстрантаў?

Была ў нас яшчэ адна надзея: нам абяцалі, што неўзабаве наш конкурс стане ўдзельнікам прэстыжнай і ўплывовай арганізацыі ў складзе ЮНЭСКА — Сусьветнай фэдэрацыі міжнародных музычных конкурсаў. Гэткім чынам, нашае музычнае сьвята набыло б зусім іншы статус — у адным шэрагу з конкурсам імя Шапэна ў Варшаве ці Чайкоўскага ў Маскве. На конкурсных праслухоўваньнях "Менск-1996" нават прысутнічаў незалежны назіральнік ад СФММК сп.Алінк зь Нідэрляндаў, і ён быў вельмі задаволены вынікамі сваёй місіі. Сёлета пра ўступленьне ў фэдэрацыю ўжо не было гаворкі. Няўжо мы назаўжды асуджаныя трываць на другіх ролях у постсавецкім запаведніку?

Гэты конкурс яскрава паказаў: мы годныя лепшага.

Юлія Андрэева

# БУДНІ САВЕЦКІХ ГЕРОЯЎ
## Гісторыя Данукалава

Працяг са старонкі 1.

У справе ж дэміталягізацыі грамадзкіх уяўленьняў першаступенную значнасьць маюць, на маю думку, публікацыі дакумэнтальных крыніцаў з гісторыі савецкае партызанкі на тэрыторыі Беларусі. Менавіта такія крыніцы даюць чытачу найбольш аб'ектывізаваную інфармацыю пра тагачасныя падзеі. У нашых архівах гэткіх дакумэнтаў захавалася нямала, таму ўвядзеньне іх у навуковы ды грамадзкі ўжытак – гэта толькі справа сумленьня гісторыкаў і архівістаў, якія добра ведаюць і іхнае месцазнаходжаньне, і іхны зьмест. А там, трэба спадзявацца, надыдуць і такія часы, калі будуць гэтыя крыніцы фігураваць і ў нашых судах у якасьці доказавых матэрыялаў абвінавачаньня. Бо ж, як вядома, на ваенныя злачынствы тэрмін даўнасьці не распаўсюджваецца...

За гэтым, прапаную ўвазе шаноўных чытачоў «НН» дакумэнты, у якіх адлюстраваліся геройствы на тэрыторыі Ўсходняе Віцебшчыны партызанскае брыгады «Аляксея» – аднаго з найбольш шанаваных пэрсанажаў у пантэоне савецка-партызанскае міталёгіі, ураджэнца Саратаўскае губэрні, Героя Савецкага Саюзу Аляксея Данукалава. Дакумэнты гэтыя захоўваюцца ў Нацыянальным архіве Рэспублікі Беларусь (далей – НАРБ) у фондзе Цэнтральнага камітэту Камуністычнае партыі Беларусі. Друкуюцца ўпершыню, зь невялікімі скаротамі ды з захаваньнем стылёвых асаблівасьцяў арыгіналаў.

### Замест пралёгу

**ПАРТЫЗАНСКАЯ БРЫГАДА ІМЯ ДАНУКАЛАВА.** Да траўня 1944 называлася брыгадай «Аляксея». Дзейнічала на акупаванай тэрыторыі Касплянскага р-ну Смаленскае вобл., Лёзьненскага, Сураскага, Віцебскага, Аршанскага, Багушэўскага, Бешанковіцкага, Чашніцкага, Ушацкага, Пліскага раёнаў БССР. Створаная ў красавіку 1942. Камандзіры брыгады А.Ф.Данукалаў (загінуў), Б.А.Блахін; камісары Т.В.Паўлоўскі (загінуў), А.Ц.Шчарбакоў, І.І.Старавойтаў; начальнікі штабу А.С.Гайдукоў, Я.М.Антоненка, Ф.І.Пласкуноў, І.П.Піменаў.

Партызаны праводзілі дывэрсіі на варожых камунікацыях, у тым ліку на чыгунках Віцебск – Ворша, Віцебск – Смаленск, Полацак – Маладэчна. У ліпені – лістападзе 1942 разграмілі варожыя гарнізоны ў в. Шапурава, Будзянка, Ляшчова Сураскага, Стасава Лёзьненскага р-наў. У сьнежні 1942 – лютым 1943 удзельнічалі ў баях з карнікамі, разграмілі гарнізоны ў в. Жабенцыі, Мельны, Баліна, Мішуткі Сураскага р-ну. У кастрычніку 1943 удзельнічалі ў баях супраць карнае апэрацыі каля в. Рубеж, Вадапоева, Вуглы Бешанковіцкага р-ну, тройчы нападалі на варожы гарнізон у в. Бачэйкава, удзельнічалі ў Лепельскай апэрацыі 1943. У красавіку – траўні 1944 у Полацка-Лепельскай партызанскай зоне брыгада вяла баі з карнікамі. У «рэйкавай вайне» на чыгуначных участках Падсьвільле – Крулёўшчына, Замасточча – Лычкоўскага, Сасноўка – Замасточча падарвала больш за 2,9 тыс. рэек.

1.7.1944 брыгада злучылася з Чырвонай Арміяй. Брыгада ўвекавечаная ў мэмарыяльным комплексе «Прарыў» у ліку 16 партызанскіх брыгадаў. У 1976 у гонар брыгады ўсталяваныя мэмарыяльныя дошкі на чыг. ст. Выдрэя Лёзьненскага р-ну, у 1976 у в. Рабава Віцебскага р-ну, у 1976 у в. Вял. Дольцы Ушацкага р-ну. У 1979 на будынку мэмарыяльнага музэю А.Ф.Данукалава ў в. Кавалі Лёзьненскага р-ну ўсталяваная мэмарыяльная дошка, у 1977 у в. Пагосьцішча Лёзьненскага р-ну пастаўленая стэла.

*Паводле энцыкляпэдыі «Беларусь у Вялікай Айчыннай вайне», Менск, 1990, с.430.*

**Дакумэнт 1**

*САКРАТАРУ ЦК КП-б-Б*
*тав. ЭЙДЗІНАВУ*
*Копія сакратару Віцебскага Абкаму КП-б-Б*
*тов. ПАЗДНЯКОВУ*

*Ад старшыні Сураскага райсавету тав. МІКАНЕНКІ, інструктара Сураскага РК КП-б-Б т. ШЭРАКОВА.*

Па даручэньні Сураскага РК КП-б-Б выбылі ў в. Саснаватка дзеля праверкі зьверскага вынішчэньня сям'і ДЗЕМІДЗЕНКАВАЙ Праскоўі.

ДАКЛАДНАЯ ЗАПІСКА

Праверане факт барбарскага вынішчэньня сям'і ДЗЕМІДЗЕНКАВАЙ Праскоўі й трох дзяцей у в. Саснаватка Астроўскага сельскага савету ў месцы дыслякацыі партызанскага атраду БАРЫСАВА брыгады АЛЯКСЕЯ.

Праверкай высьветлена, што 12-ІІ-43 году да грамадзянкі ДЗЕМІДЗЕНКАВАЙ прыбылі тры партызаны з атраду БАРЫСА [sic!], якія, як паказвае грамадзянка ЦЮПЛЕКАВА Ефрасіньня, пачалі браць у яе сена. Апошняя адмовілася яго аддаць, пасьля чаго была арыштаваная. Пратрымаўшы 2 сутак пад арыштам, яе прывялі дахаты, з трыма малымі дзецьмі расстралялі ў кустах і кінулі незарытымі.

Грамадзянка ДЗЕМІДЗЕНКАВА была сяstriпраю паліцыянта. Аднак, мы лічым зусім няправільным, што сама ДЗЕМІДЗЕНКАВА зь еймымі малымі дзецьмі расстраляная на вачах насельніцтва, і трупы кінутыя ў полі.

Гэткія факты дзеяньняў з боку партызанаў брыгады АЛЯКСЕЯ не адзінкавыя. 8-ІІ-43 г. камандзір атраду БЛАХІН і ягоны намесьнік РАХАНАЎ уначы абрабавалі грамадзянку МЕХАВУ Пелагею ў в. Будзіслава Курынскага сельскага савету, у якой забралі ўсю хатнюю маёмасьць і хлеб, нягледзячы на тое, што тры сыны апошняй знаходзяцца ў РСЧА, а чацьверты – у партызанскім атрадзе ГУРКО.

Аб такіх фактах няправільнага дзеяньня намі ставілася пытаньне перад камандзірам брыгады АЛЯКСЕЕМ, але ніякія меры прынятыя не былі, наадварот, марадзёрства з боку вышэйпазначанае брыгады павялічваецца.

Да дакладной далучаем дакумэнты аб некаторых дзеяньнях партызанаў гэтае брыгады.

Старшыня Сураскага райсавету МІКАНЕНКА
інструктар Сураскага райкаму партыі ШЭРАКОЎ

*Машынапіс, арыгінал. НАРБ, ф.4, в.25, спр.2145, арк.1.*

**Дакумэнт 2**

*НАЧАЛЬНІКУ АПЭРГРУПЫ ПРАДСТАЎНІКА ЦЭНТРАЛЬНАГА ШТАБУ ПАРТЫЗАНСКАГА РУХУ ПРЫ ВАЕННАЙ РАДЗЕ 4-Е ЎДАРНАЕ АРМІІ МАЁРУ Тав. ВОЗЧЫКАВУ*

ДАНЯСЕНЬНЕ

Гэтым даношу пра тое, што пад час знаходжаньня сярод партызанскіх брыгадаў Сакалова й «Аляксея» з 12-га лютага па 7-га сакавіка 1943 г. высьветліў наступнае: «Аляксей», як камандзір брыгады, замест таго, каб выхоўваць падначаленых у духу барацьбы з праціўнікам, расклаў брыгаду. Ягоныя людзі займаюцца марадзёрствам сярод мірнага насельніцтва. Заходзяць у хату і забіраюць ня толькі жывёлу й прадукты харчаваньня, але й разьбіваюць куфры, забіраюць адзеньне, грамадзянаў, якія супраціўляюцца, б'юць прыкладам. Я быў у «Аляксея» на нарадзе камандкага складу ягонае брыгады і ўбачыў наступную карціну: пасярод шалашу пасланы дыван, на дыване – падушка, і на падушцы – «Аляксей», якога падначаленыя завуць «БАЦЯ».

Нават супраціву праціўніку пры наступе ня твораць. Гэткі прыклад: 26-га лютага «Аляксей» пераходзіў з брыгадаю ў 700 чалавек бальшак Сураж-Віцебскі, і дастаткова было 3-х стрэлаў патрулёў праціўніка, як брыгада ў паніцы пабегла, кідаючы коняў. Я запытаўся, чаму ён ня творыць арганізаванага супраціву, і апошні адказаў: «Я маю загад у бой з праціўнікам не ўваходзіць, а пазьбягаць яго дзеля захаваньня жывое сілы». Гэтым ён дэманструе сваю няздольнасьць і выхоўвае боязь у падначаленых, а праціўнік нахабствуе й сьмяецца, разганяючы партызанаў малымі сіламі.

Лічу дзеяньні партызанаў у адносінах да мірнага насельніцтва недапушчальнымі, бо гэткія дзеяньні ўзьнімаюць насельніцтва супраць партызанаў. Паліцыянтам немцы забараняюць займацца марадзёрствам сярод насельніцтва і гэтым самым вядуць агітацыю сярод насельніцтва, завучы партызанаў бандытамі.

Прашу прыняць адпаведныя захады.

старшы лейтэнант
(ЦЬВЯТКОЎ)
10 сакавіка 1943 г.

*Машынапіс, незавераная копія. НАРБ, ф.4, в.25, спр.2145, арк.13-14.*

**Дакумэнт 3**

Копія

ТЛУМАЧАЛЬНАЯ ЗАПІСКА

Я, САМАЛЁТАЎ Трафім Васілевіч, 1906 г. нараджэньня, пра брыгаду АЛЯКСЕЯ ведаю наступнае:

У 1942 г. 24 лютага мы разам з АЛЯКСЕЕМ прыбылі з партызанскім атрадам у Беларусь, дзе на загаду Смаленскага «Баці» мусілі аб'яднаць усе партызанскія атрады.

Наш атрад, які прыбыў у в. МАРТЫНАВА Марчанскага сельскага савету, складаўся з 80 чалавек, камандзірам атраду быў ЛАДЫПН, камісарам атраду быў я.

Аляксей у той час, калі атрад вёў баявыя дзеяньні, у апэрацыях ня ўдзельнічаў, знаходзіўся амаль увесь час у штабе й меў сужыцьцё зь лекаркай атраду Тоняй, прозьвішча якой я ня ведаю. Калі наш атрад узрос да 300 чалавек, Аляксей падзяліў яго на два атрады, у адным атрадзе пакінуў старога камандзіра тав. ЛАДЫГІНА, у другім атрадзе пакінуў мяне камісарам атраду й даў мне новага камандзіра.

Брыгада Аляксея таксама займалася марадзёрствам.

У ліпені месяцы 1942 г. у раёне в. Уласава й Рабцава [Рабава] нямецкае камандаваньне павяло наступ на наш гарнізон, і пасьля ўварваньня ў в. УЛАСАВА немцы частку насельніцтва ўзялі з сабою. У гэты час камандзірам атраду ГЛАДКОЎСКІМ былі адрытыя 2 ямы рэчаў, якія належалі грамадзянам. Мною, як камісарам атраду, было дадзене распараджэньне ўсе рэчы здаць Марчанскаму сельскаму савету, але камандзір атраду АНТОНАЎ усе рэчы падзяліў паміж сабою й камандзірамі. Тады я пачаў яму казаць, што справа дойдзе да скандалу, і за марадзёрства ня з табою аддадуць пад суд, але ён у п'яным выглядзе кінуўся на мяне з наганам ды мяне ледзь не застрэліў, што можа пацьвердзіць старшыня Марчанскага сельскага савету, а таксама й сакратар. У гэты час Аляксея не было, ён быў у Маскве, але калі Аляксей прыехаў у брыгаду, і я напісаў аб усім рапарт, дык ён у п'яным выглядзе сказаў: «Калі было дадзенае распараджэньне камандзірам атраду, дык адмяняць яго ніхто ня мае права».

Прыехаўшы з Масквы, Аляксей прывёз сабе яшчэ жонку [Вольгу]. Брыгада ў гэты час стаяла ў в. КУРЭНЫ [Курына]. Ён напіўся п'яным і пайшоў начаваць да былой сваёй жонкі Тоні, а Вольга засталася сама. Яна ўзброілася «Маўзэрам» і пайшла шукаць Аляксея, але дзякуючы таму, што каля кватэры Аляксея стаялі 2 чалавекі вартавых, яе ў кватэру не пусьцілі. Пасьля гэтага Аляксей пабачыў, што справы кепскія, што жыць зь дзьвюма жонкамі немагчыма, і ён пачаў угаворваць Тоню, каб яна ехала ў савецкі тыл на працу, выпісаў ёй добры дакумэнт, і яна паехала.

Аднойчы п'яны Аляксей прыехаў у атрад АХМЕДЧЫКА, расшукаў самога камандзіра, які быў паранены й ляжаў на койцы, і пачаў пытацца гарэлкі. АХМЕДЧЫК сказаў, што няма, тады Аляксей узяў «ППШ» і даў па ім чаргу, але па прычыне ягонага п'янога стану чарга была дадзеная трохі вышэй... На банкеце ў атрадзе Качубея, Аляксей напіўся вельмі п'яным, разьбіў патэфон гаспадара, страляў з «Маўзэра» ў кватэры, шмат каму з хлопцаў пабіў твары. Быў выпадак, калі Аляксей у п'яным выглядзе, падчас майго дзяжурства ў штабе брыгады паставіў мяне да пуні й з «Маўзэра» стрэліў 10 разоў над самаю галавою...

Да гэтага – САМАЛЁТАЎ.

копія дакладная
Надрукавана ў 3-х асобніках.
29 сакавіка 1943 г.

*Машынапіс, копія. НАРБ, ф.4, в.25, спр.2145, арк.4-5.*

**Дакумэнт 4**

Віцебскаму Абкаму КП(б)Б

ДАКЛАДНАЯ

Па пытаньню аб працы партызанскае брыгады Аляксея мне, як камісару партызанскага атраду Іванову Ф.М., вядома наступнае:

Брыгадаю пад час ейнага знаходжаньня на тэрыторыі Лёзьненскага й Сураскага раёнаў праведзеная вялікая палітычная й арганізацыйная праца па ўздыму акупаванага насельніцтва на партызанскую барацьбу зь гітлераўскімі вылюдкамі. Аб гэтым сьведчыць факт, што зь невялікага атраду вырасла вялікая брыгада. Шмат стратаў панесьлі акупанты жывою сілаю й тэхнікаю ад рукі партызанаў гэтае брыгады. Вялікую дапамогу ў справе выгнаньня нямецкіх акупантаў з нашай зямлі зрабілі партызаны Чырвонай Арміі й праз шэраг іншых мерапрыемстваў, пра якія, я лічу, вядома абласному камітэту партыі, і я на іх спыняцца ня буду. Толькі адзначу, што ва ўсім гэтым вялікая заслуга каманднага й палітычнага складу атрадаў брыгады, камандаваньня брыгады й асабіста тав. Аляксея (Данукалава).

Аднак, брыгада ў сваёй працы не пазбаўленая й недахопаў, прылікаў і памылак. Гэткія мне вядомыя наступныя:

1. Пад час арганізацыі брыгады мелі месца выпадкі расстрэлу асобаў, якія ня мелі за сабою правінаў, што цягнулі на гэткае пакараньне. У красавіку месяцы 1942 г. гэтак былі расстраляныя зь в. Уласава Марчанскага сельскага савету Сураскага раёну Маісееў Міхаіл, зь в. Рабава гэтага ж сельскага савету й раёну Тачыленка Іван за тое, што яны ня ў шэрагах арміі (яны прыйшлі з акружэньня ў свае вёскі).

2. Вялікая колькасьць каманднага складу, як пры штабе брыгады, так і ў атрадах, жаніліся, часта маючы законных жонак дома. Гэтыя жонкі, гэтак званыя партызанскія, гультайнічаюць, а лічацца ў гэты час партызанкамі.

3. Маюць месца выпадкі няправільнага ўзяцьця маёмасьці ў грамадзянаў. Гэтак атрадам «Марака» былі ўзятыя каровы ў грамадзянаў Сураскага раёну в. Лямніца й іншых, атрад Блахіна ўзяў 2 каровы ў сям'яў партызанаў в. Церахава Краўцоўскага сельскага савету. Наконт марадзёрства ў брыгадзе выдаваўся шэраг загадаў, якія папярэджвалі аб прыцягненьні да строгай адказнасьці асобаў, ублытаных у марадзёрства. Аднак, я лічу, што пакараньні не былі жорсткімі ў дастатковай ступені, недастаткова праводзілася палітычная праца ў гэтым накірунку, і праз гэта марадзёрства вельмі марудна зжывалася.

Названыя недахопы зьніжалі заслугі партызанаў і адмоўна ўзьдзейнічалі на мірнае насельніцтва. Трэба ўказаць, што ў брыгадзе не было рэзкага грамадзкага асуджэньня правінаў, якія плямілі гонар партызана, як, напрыклад, п'янства. У гэтых самых адносінах не на дастатковай вышыні стаяла партыйная й палітычная праца. У гэткіх атрадах як Марака й Ахмедчыка амаль не выходзіў з каманднага складу самагон.

18.IV.43 г.
[Подпіс: Іваноў]

*Рукапіс, арыгінал. НАРБ, ф.4, в.25, спр.2145, арк.19-20.*



**Дакумэнт 5**

ЗАКЛЮЧЭНЬНЕ

У справе ДАНУКАЛАВА Аляксея Фёдаравіча, сябры УКП(б) з 1940 г. партбілет №3362735, працуе камандзірам партызанскае брыгады «АЛЯКСЕЯ».

Праверкай шматлікіх матэрыялаў, якія паступілі ў Абкам КП(б)Б, высьветлена, што ў партызанскай брыгадзе АЛЯКСЕЯ маюць месца шмат выпадкаў марадзёрства, п'янства, бытавога раскладаньня сярод каманднага складу брыгады й парушэньня вайсковае дысцыпліны. Так напрыклад:

28.1.43 г. 5 байцоў партызанскае брыгады АЛЯКСЕЯ, што былі разьмешчаныя ў в. КЛІШАВА, зайшлі ў хату да жонкі інструктара Гарадоцкага РК КП(б)Б ШЫФАЛІНАЙ, пад страхам зброі прымусілі яе маўчаць і не выходзіць з хаты, а самі ў гэты час з сараю забралі 6 шт. курэй і 4 – у суседа, зарэзалі іх і сышлі.

10.ІІ.43 г. камандзір партызанскага атраду брыгады Аляксея БЛАХІН правёў вобыск у грамадзянкі в. Мурашкі Курынскага сельскага савету МЕХАВАЙ Марыі, пад час вобыску забраў – 40 пудоў жыта, 35 мэтраў саматканага сукна, 2 мяхі воўны, 19 аўчынаў. 3 сыны гэтае жанчыны знаходзяцца ў Чырвонай Арміі й адзін – у партызанскім атрадзе ГУРКО. Апрача гэтага, жанчына выхоўвае дзяцей сваіх дочак, чые мужы загінулі пад час фінскіх падзеяў.

19.1.43 г. камандзір партызанскага атраду АХМЕДЧЫК пад час п'янкі з камандзірам партызанскага атраду АНТОНЕНКАМ дамовіліся, каб апошні загадаў партызанцы ЯЎСЕЕВАЙ паехаць з АХМЕДЧЫКАМ, быццам бы ў штаб брыгады ў якасьці сувязной. На шляху АХМЕДЧЫК прапанаваў ЯЎСЕЕВАЙ уступіць зь ім у інтымную сувязь. Але атрымаўшы адмову, ён пагражаў ёй зброяй (даў дзьве чаргі з аўтамата), пасьля гэтага ўжыў сілу і згвалціў ЯЎСЕЕВУ, і шмат іншых фактаў.

ДАНУКАЛАЎ ня толькі не праводзіў барацьбу з марадзёрствам, п'янствам, бытавым разбэшчаньнем, але й сам садзейнічаў гэтаму й сыстэматычна піў.

Рашэньнем Райкаму КП(б)Б ад 9/ІІ. 43 г. АХМЕДЧЫК за п'янства й згвалтаваньне партызанкі быў выключаны з партыі. Тав. ДАНУКАЛАВУ прапанавана зьняць АХМЕДЧЫКА з працы камандзіра партызанскага атраду. Аднак, ДАНУКАЛАЎ гэтае прапановы ня выканаў і накіраваў АХМЕДЧЫКА на адпачынак у г. Маскву.

Пасьля прыбыцьця з Масквы ў 1942 г., ДАНУКАЛАЎ прывёз сабе жонку, да гэтага ён у брыгадзе жыў зь лекаркай Тоняй. У в. КУРЫНА, напіўшыся п'яным, ён пайшоў начаваць з былою жонкай Тоняй, а Вольга засталася сама. Для таго, каб не пусьціць Вольгу, ён паставіў каля кватэры вартавога й загадаў яе не пускаць, калі палезе – страляць. Тое самае ён вырабляў, калі знаходзіўся з Вольгаю.

Такія адносіны да справы й паводзіны ДАНУКАЛАВА адбіваюцца на дысцыпліне і ўстойлівасьці партызанаў. Толькі за тры месяцы з брыгады АЛЯКСЕЯ дэзэртавалі 101 чалавек.

Зыходзячы з выкладзенага вышэй, лічу, што камандзіра партызанскае брыгады «АЛЯКСЕЯ» ДАНУКАЛАВА А.Ф. за сыстэматычнае п'янства, бытавую разбэшчанасьць, грубае парушэньне партыйнае й вайсковае дысцыпліны з працы зьняць і аб'явіць строгую вымову з папярэджаньнем.

Загадчык аргінструктарскага аддзелу
Віцебскага АК КП(б)Б
/Марозаў/.

7 красавіка 1943 г.

*Машынапіс, незавераная копія. НАРБ, ф.4, в.25, спр.2145, арк.3.*

## Замест эпілёгу

**ДАНУКАЛАЎ** Аляксей Фёдаравіч (партызанскі псэўданім Аляксей; 29.2.1916, с. Новарасьлеўка Дзергачоўскага р-ну Саратаўскае вобл. - 27.4.1944), адзін з арганізатараў і кіраўнікоў партызанскага руху на тэрыторыі Віцебскае вобласьці ў Вялікую Айчынную вайну, Герой Савецкага Саюзу (1944). Скончыў Балашоўскі тэхнікум мэханізацыі сельскае гаспадаркі (1936), Іркуцкую вайсковую вучэльню (1941). У Чырвонай Арміі з 1937. З чэрвеня 1941 на фронце, удзельнік абароны Лепелю, Воршы, Смаленску. Трапіўшы ў акружэньне, у жніўні 1941 арганізаваў партызанскі атрад «Радзіма», які дзейнічаў у Смаленскай і Віцебскай абласьцях. У красавіку 1942 атрад рэарганізаваны ў брыгаду «Аляксей», камандзірам якой быў Данукалаў (пазьней партызанская брыгада ягонага імя). Падпалкоўнік Данукалаў загінуў у баі ў час выхаду з блякады. У Лепелі на магіле Данукалава пастаўлены помнік. Ягоным імем названыя вуліцы ў Віцебску, Лепелі, Лёзьне, Ушачах, калгас у Лёзьненскім і саўгас у Сеньненскім, школа ў Віцебскім р-нах; у в. Кавалі Лёзьненскага р-ну мэмарыяльны музэй Данукалава, усталяваны ягоны бюст.

*Энцыкляпедыя гісторыі Беларусі. Т.3, Менск, 1996, с.207.*

**Прадмова, пераклад з расейскай і публікацыя Ігара Лялькова**

# Беларусь павінна быць вольнай і незалежнай дзяржаваю!

### *Зварот да беларусаў сьвету ў сувязі з 55-мі ўгодкамі заканчэньня другой сусьветнай вайны*

Паважаныя суайчыньнікі!

Сёлета ў пачатку траўня мінае 55 гадоў з дня перамогі над фашысцкай Нямеччынай, а 3 верасьня 2000 году споўніцца такі ж тэрмін з дня заканчэньня другой сусьветнай вайны навогул, якая па зьдзейсьненых супраць чалавецтва злачынствах і матэрыяльных разбурэньнях ня ведае сабе роўных. Яе адрозьненьне ад першай сусьветнай вайны, галоўнай прычынай разьвязваньня якой зьявіліся непрымірымыя эканамічныя супярэчнасьці паміж дзьвюма групоўкамі дзяржаваў, заключаецца ў тым, што яна пачалася са змовы двух палітычных дыктатарскіх рэжымаў, якія сапернічалі паміж сабою за ўсталяваньне сусьветнага панаваньня бальшавізму і фашызму, узьнікненьне якіх было адрыжкай мінулых манархічных дыктатур, што праіснавалі ў Расеі і Нямеччыне аж да пачатку ХХ ст.

Сьвет, бадай, ня ведае больших па сваіх памерах і цынізму злачынстваў супраць чалавецтва, чым падпісаньне ў Маскве 23 жніўня 1939 году В.Молатавым і І.Рыбэнтропам дамовы і пратаколаў аб супрацоўніцтве і падзелу паміж двума дыктатарскімі рэжымамі сфэраў уплыву ў Эўропе. Названыя дакумэнты і падняты ў той дзень І.Сталіным у Крамлі келіх шампанскага за здароўе А.Гітлера, як за лідэра, якога нібыта падтрымлівае нямецкі народ, былі па сутнасьці блаславеньнем адным дыктатарам іншага на разьвязваньне другой сусьветнай вайны, пачаткам якой гісторыя лічыць напад 1 верасьня 1939 году фашысцкай Нямеччыны на Польшчу. Літаральна праз некалькі дзён у гэтую вайну амаль у якасьці саюзьніка агрэсара ўступіў і бальшавіцкі рэжым. Ухваленьне нападу фашысцкай Нямеччыны на Польшчу і ўвод войскаў у заходнія вобласьці Беларусі і Ўкраіны, зь якіх ужо ў першыя месяцы былі дэпартаваныя ў раёны Сібіры і Казахстану тысячы ні ў чым не вінаватых людзей, правядзеньне сумеснага ваеннага параду нямецка-фашысцкіх і савецка-бальшавіцкіх войскаў у Берасьці, зьверскае зьнішчэньне польскіх афіцэраў у Катынскім лесе пад Смаленскам, ініцыятыва разьвязваньня вайны зь Фінляндыяй, захоп Бэсарабіі, акупацыя прыбалтыйскіх дзяржаваў — вось той няпоўны пералік злачынстваў бальшавізму, учыненых ім напачатку другой сусьветнай вайны па змове або ўзгадненьню з фашызмам.

Недаацэньвалі як пагрозу для сьвету зьяўленьне дзьвюх экстрэмісцкіх і па сваёй сутнасьці з самага пачатку варожых палітычных плыняў многія кіраўнікі і палітычныя дзеячы краін Заходняй Эўропы і Злучаных Штатаў Амэрыкі. І гэта стала адной з галоўных прычын мюнхенскіх уступак Гітлеру і вялага, галоўным чынам на словах, рэагаваньня на далейшыя злачынныя дзеяньні па захопу новых тэрыторыяў абодвума дыктатарскімі рэжымамі.

І толькі з нападам гітлераўскай Нямеччыны на Савецкі Саюз (ад намеру зрабіць гэта раней ці пазьней Гітлер ніколі не адмаўляўся, як не адмаўляўся і Сталін устанавіць у сьвеце панаваньне камуністычнага рэжыму), убачыўшы навіслую пагрозу цёмных сілаў рэакцыі над усім чалавецтвам, кіраўнікі многіх краін сьвету (перш за ўсё ЗША і Вялікабрытаніі) змаглі пераадолець палітычныя перашкоды і пайшлі ў барацьбе з фашызмам на саюз з СССР, кіраўнікі якога, апынуўшыся перад сьмяротнай небясьпекай, таксама супакоілі свае амбіцыі па ўсталяваньню камуністычных парадкаў ва ўсім сьвеце. Не скарыліся перад фашызмам прагрэсіўныя сілы ў акупаваных краінах, а таксама сапраўдныя патрыёты ў самой Нямеччыне і саюзных зь ёю дзяржавах.

Перамога над Нямеччынай і яе



саюзьнікамі ў гады другой сусьветнай вайны пацьвердзіла бясспрэчную перавагу аб'яднаных сілаў прагрэсу над сіламі рэакцыі, трыюмф здаровага сэнсу над цемрашальствам.

Другая сусьветная вайна прынесла чалавецтву незьлічоныя страты чалавечых жыцьцяў, мільёны калекаў і сірот, замест тысячаў гарадоў і вёсак яна пакінула папялішчы і груды руінаў, а там, дзе да вайны стаялі заводы і людзкія сядзібы, засталіся стаяць адзінокія коміны і абпаленыя дрэвы. Беларусь выйшла з той вайны адным з найбольш пацярпелых рэгіёнаў сьвету. У рэспубліцы загінуў кожны чацьверты яе жыхар. У гады вайны спалена ці зруйнавана больш за 200 гарадоў і пасёлкаў гарадзкога тыпу і больш за 9 тыс. вёсак, у выніку чаго каля 3 млн. людзей засталіся бяз даху. Сотні беларусаў былі вывезеныя фашыстамі ў Нямеччыну ў якасьці працоўнае сілы, а яшчэ больш людзей пакінулі Беларусь па палітычных матывах у час уступленьня на яе тэрыторыю Чырвонай Арміі (пазьней яны знайшлі прытулак на самых розных кантынэнтах зямнога шару), больш чым паўмільёна жыхароў Беларусі выехалі за яе межы ў пасьляваенныя гады ў сувязі з правядзеньнем перасяленьня, зьвязанага са зьменамі беларуска-польскай мяжы; многія беларусы былі асуджаныя за зьдзейсьненыя імі ў гады вайны злачынствы, але яшчэ больш іх па палітычных матывах зноў апынуліся ў савецкіх турмах і канцлягерах Сібіры, Поўначы і Казахстану. Пры гэтым трэба падкрэсьліць, што загінула, пацярпела і пакінула тэрыторыю Беларусі самая адукаваная і патрыятычна настроеная частка насельніцтва.

Юрыдычную ацэнку вынікаў другой сусьветнай вайны даў Нюрнбэрскі працэс, на якім былі асуджаныя ня толькі ваенныя злачынцы Нямеччыны, але й сам фашызм як палітычная сыстэма і ідэалёгія. Першы раз у гісторыі агрэсія была прызнаная цяжкім злачынствам супраць чалавецтва. Аднак гэта не было зроблена ў адносінах да другога дыктатарскага рэжыму. Карыстаючыся гэтай бесьпакаранасьцю, бальшавізм змог усталяваць у пасьляваенныя гады свой рэжым яшчэ ў некалькіх дзяржавах сьвету і стварыць гэтак званы сусьветны лягер сацыялізму, чым затрымаў разьвіцьцё многіх краін на цэлыя дзесяцігодзьдзі. І спатрэбіліся немалыя намаганьні прагрэсіўнай часткі чалавецтва і працяглы час, каб бальшавізм як палітычная сыстэма і ідэалёгія прадэманстраваў сваю відавочную непрыгоднасьць.

За гэтыя гады далёка наперад пайшлі ў разьвіцьці эканомікі і дэмакратыі заходнія дзяржавы — былыя саюзьнікі ў барацьбе з фашызмам, стала дэмакратычнай, цывілізаванай і высока разьвітай краінай і пераможаная ў другой сусьветнай вайне Нямеччына. Няма ўжо і так званага сацыялістычнага лягеру, распаўся і сам Савецкі Саюз як апора экстрэмісцкай плыні бальшавізму. Пакутліва шукаюць свой шлях разьвіцьця незалежныя дзяржавы, якія былі створаныя на яго тэрыторыі. Усё больш нахіл у бок дэмакратычнага разьвіцьця і ўсталяваньня сувязяў з заходнім сьветам робіць Расейская Фэдэрацыя як найбольш магутная на постсавецкай прасторы дзяржава.

Аднак, як паказалі падзеі апошніх гадоў, сьвет яшчэ ня выпрацаваў імунітэту супраць новага адраджэньня былых дыктатур. І найбольш слабаю ў гэтых адносінах часткаю эўрапейскага кантынэнту аказалася Рэспубліка Беларусь. Рэцыдыў названых рэжымаў зьявіўся тут у выглядзе так званага лукашызму, які ўяўляе сабою сумесь фашызму і бальшавізму, здобраную махровым папулізмам. Верхавод рэжыму адкрыта заяўляў аб тым, што яго кумірам зьяўляецца Гітлер, а яго партрэты на пэрыядычна праводжаных яго атачэньнем шоў выносяць побач з партрэтамі Сталіна. У Беларусі пад патранажам міністэрства ўнутраных справаў і КГБ створаныя базы па падрыхтоўцы расейскіх фашыстоўскіх баявых атрадаў РНЕ.

Новая праява былых дыктатарскіх рэжымаў у Беларусі не магла расквітнець гэткім буйным цьветам, ад якога цягне трупным смуродам адоленага 55 гадоў таму назад фашызму і пацярпелага катастрофу ў канцы 80-х — пачатку 90-х гадоў мінулага стагодзьдзя бальшавізму, каб яму не аказалі актыўную падтрымку былыя кіраўнікі кампартыі Беларусі і многія расейскія палітыкі шавіністычнага кшталту, і ў першую чаргу зноў-такі былыя і сёньняшнія кіраўнікі КПРФ, што яшчэ раз сьведчыць аб амаральнасьці і злачыннасьці бальшавізму як экстрэмісцкай палітычнай плыні і бесчалавечнай ідэалёгіі і неабходнасьці публічнага асуджэньня яго міжнародным судом, як гэта было зроблена з фашызмам на Нюрнбэрскім працэсе.

У апошні час у верхавода дыктатарскага рэжыму ў Беларусі, тэрмін прэзыдэнцкіх паўнамоцтваў якога скончыўся 20 ліпеня 1999 году і супраць рэжыму якога ўзбуджана крымінальная справа і вядзецца сьледзтва, зрабіў новы выпад супраць свайго народу і народаў краін Цэнтральнай і Ўсходняй Эўропы — прапанаваў кіраўнікам Расейскай Фэдэрацыі стварыць на тэрыторыі Беларусі 300-тысячную вайсковую групоўку, што на практыцы азначае, па сутнасьці, заклік да акупацыі рэспублікі замежным войскам і стварэньне ваеннай напругі ў рэгіёне.

Дарагія суайчыньнікі! У якой бы краіне Вы ні жылі, у Беларусі ці за яе межамі, усе мы павінны зразумець тую небясьпеку, якая навісла над нашай Радзімай — небясьпеку страты ёю незалежнасьці і дзяржаўнага суверэнітэту. У той жа час мы павінны зразумець і тую простую ісьціну, што лёс Беларусі можа быць вырашаны ўрэшце толькі самімі беларусамі. Нам могуць дапамагчы, але вырашаць нашыя праблемы ніхто за нас ня будзе. Таму я зьвяртаюся да ўсіх Вас, паважаныя беларусы, і заклікаю Вас адкінуць усе дробныя разыходжаньні паміж сабою і аб'яднацца вакол Вярхоўнага Савету Рэспублікі Беларусь як адзінага легітымнага заканадаўчага і вышэйшага прадстаўнічага, а пасьля 20 ліпеня і адзінага легітымнага дзяржаўнага органу на тэрыторыі Беларусі ў імя сьвятой справы — абароны свабоды і незалежнасьці нашай маці-Беларусі і пазбаўленьня яе ад дыктатуры.

Беларусь павінна быць вольнай і незалежнай дзяржаваю, як аб гэтым было абвешчана Трэцяй Устаўной Граматаю 25 сакавіка 1918 году і як таго патрабуе Канстытуцыя Рэспублікі Беларусь.

Жыве Беларусь!

**С.Шарэцкі,**
**Старшыня Вярхоўнага Савету Рэспублікі Беларусь**

# КСЁНДЗ ВОЛЬСКІ

Уладзімер СОДАЛЬ

Ня гэтак даўна, гартаючы «Нашу Ніву» за 1910 год, прачытаў: «Нядаўна меў тут першую імшу ксёндз Вольскі (родам ён з Радашкавічаў, вучыўся ў Пецярбургу) і на гэту памятку пасьля імшы раздаваў абразкі з подпісам па-беларуску з малітвай: «Маліцеся, брацьця, каб мая і ваша афяра была прынята ў Бога, Айца Ўсемагутнага».

Гэтая нататка мяне дужа ўразіла. 1910 год... Беларускія асьветнікі напружваюць усе свае сілы, каб ва ўсіх сфэрах наладзіць сьвядомае беларускае жыцьцё. У сьвятынях таксама. І, як бачна, дзе-нідзе ім гэта ўдаецца. І ў сьвятынях яны знаходзяць сабе аднадумцаў і пэўную падтрымку. Захацелася сабраць хоць трошкі зьвестак пра згаданага сьвятара. Але дзе гэтыя зьвесткі браць? Ці ацалела там хоць што? З такімі думкамі аднойчы я выбраўся ў Радашкавічы. З мною быў і фотамаэстра Анатоль Каляда. Мы ішлі зь ім галоўнай радашкавіцкай вуліцай, разглядаючы забудову. Раптам Анатоль і кажа: «Паглядзі на гэтую мураванку... Як ты думаеш, колькі ёй гадоў?»

Бачу — даўняй муроўкі. Шмат дзе цэгла вышчарбілася, высыпалася, сыплецца чырвоным парашочкам.

«Там бабка сядзіць пры сьцяне, на сонейку грэецца, — дадаў Анатоль. — Цікава, хто старэйшы: бабка ці дамок?»

Мы зайшлі ў дворык. Анатоль фатаграфуе бабку, ды ня так, як звычайна, вокам праз аб'ектыў, а з рукі, як тэлекамэрай. Часу ў нас мала, вобмаль, ці мо і зусім няма. Мы кіруемся на саракавіны да Веры Андрэеўны Сьніткі-Тарашкевіч-Ніжанкоўскай.

Я пасьпяваю толькі пра адно запытацца ў бабулькі: «Зь якога Вы году і ці ня чулі чаго пра ксяндза Вольскага?» На першае пытаньне адказала, што яна з чатырнаццатага. А што ж да Вольскага, дык гэты Вольскі — яе дзядзька!

Вось табе і маеш! Я мо гады з два ці тры думаў, як падступіцца да гэтага Вольскага!



*На магіле Яна Вольскага*

*Ксёндз Ян Вольскі. Нарадзіўся ў 1887 годзе — расстраляны ў 1943 г.*

Завуць жанчыну Стэфанія. Яе маці і сьвятар Вольскі былі родныя брат і сястра. Звалі яго Ян, нарадзіўся ў 1887 годзе. Быў ён вельмі набожны і праўдзівы. Вучыўся на сьвятара ў Пецярбургу. Знаўся зь Янкам Купалам. Вельмі хінуўся да ўсяго беларускага. Гарой стаяў за Беларусь, за беларусаў. У Радашкавічах ён быў нядоўга. Яго чамусь часта пасылалі з аднае парафіі ў другую: у Сноў, у Слуцак, Івенец, Нясьвіж... У Снове быў найдаўжэй. Вайна яго прысьпела ў Кобрыне. І ўсё было б добра, павінна было быць добра. У Кобрыне, як і ў іншых касьцёлах, Ян Вольскі славіў Бога. Славіў нашым беларускім словам, але аднаго разу ў якуюсь віну перад немцамі патрапіў адзін кобрынаскі юнак, і немцы меліся яго павесіць. Людзі, а найперш матка таго хлопца, пачалі прасіць сьвятара, каб той заступіўся. Пайшоў ён да немцаў. І яму неяк удалося абараніць юнака, і яны яго адпусьцілі. А праз колькі дзён па мястэчку пайшла пагалоска, што той хлопец, якога абараніў сьвятар, падаўся да партызанаў. Гэтая пагалоска дайшла і да немцаў. Яны Вольскага тут жа арыштавалі, вывелі ў поле і застрэлілі... Арыштавалі 9 лістапада 1943 году, а пазбавілі жыцьця 15-га.

Сьвятарова пляменьніца згадала, што тут, у Радашкавічах, ля мастка праз рэчку, жыве яе старэйшы брат. Яму ўжо за дзевяноста. Але мае добрую памяць і зоркія вочы і чытае яшчэ без акуляраў... У яго напраўду аказалася сьветлая памяць.

Так, ягоны дзядзька Ян Вольскі праз усё жыцьцё трымаўся роднай мовы. Прыгадаў, як у Радашкавічах быў якісь суд. А было гэта яшчэ за царом. Вось на гэтым судзе ён папрасіў судзьдзяў дазволіць яму сьведчыць на яго роднай мове, бо толькі на ёй ён можа даць праўдзівыя сьведчаньні...

У сьвятаровага пляменьніка знайшоўся і невялічкі здымачак Яна Вольскага. Ян Вольскі на ім у сваім пастырскім адзеньні. Спакойны і ўраўнаважаны, з добрай пастырскай аўраю. Паказаў мне сьвятароў пляменьнік і здымачак з магілкай Яна Вольскага.

Два здымкі... Пачатак пастырства і яго канец. А між імі цэлая вечнасьць, цэлая жыцьцёвая прастора, поўная імгненьняў, парываньняў, самаахвярнасьці. «Наша Ніва» з нагоды таго, што сьвятар надзяляў вернікаў абразкамі з малітвай па-беларуску, пісала: «Нашы беларусы надта цешыліся з гэтых слаўцоў у роднай мове». І гэтая ўцеха была ўсюды, дзе толькі служыў Богу Ян Вольскі.

# ВЯЛІКІ КНЯЗЬ ІНСТРУМЭНТАЎ

***Уладзімер Неўдах. Cantantibus organis: Беларуская арганная культура ў кантэксьце эўрапейскага музычна-гістарычнага працэсу. — Менск: Тэхналёгія, 1999. — 170 с. ISBN 985-6234-74-3.***

Дзіўна, што беларуская кніга пра арганы зьявілася толькі пасьля расейскай. Каму, як ня нам, ведаць арганы і пісаць пра іх. Аднак не давалі раней. Сказаць дзякуй мусім цяпер дасьледніку і прапагандысту арганнай музыкі Ўладзімеру Неўдаху за ягоную кнігу. Яна стала першай пра беларускія арганы, на яе будуць абапірацца іншыя. Музыказнаўцы пра яе яшчэ напішуць, а пакуль колькі словаў пра гістарычнае тло тэмы.

Адкуль у Беларусь прыйшлі арганы? Пры канцы XX ст. у думках і прафэсіяналаў, і прафанаў арганы сталі музычным сынонімам каталіцтва. Адсюль меркаваньне, што распаўсюджваньне арганаў у нас шчыльна зьвязанае з пашырэньнем касьцёлу. Між тым, арганы шанавалі ў праваслаўнай Бізантыі, адно не як царкоўны інструмэнт, а сьвецкі, але ж вельмі паважаны, імпэратарскага ўзроўню. Калі грэкі ў XI ст. збудавалі кіеўскі Сафійскі сабор, дык на адным з муроў намалявалі кампазыцыю — арганіст іграе на арганах, а двое яго памагатых надзімаюць мяхі. Усяслаў Чарадзей таксама збудаваў сабе Сафію, на жаль, ня ведаем, што за фрэскі яна мела. Пару разоў арганы згадваюцца ў праваслаўнай літаратуры XII—XIII ст., але не ў Беларусі. Магчыма, арганы былі ў той час і ў нас. Пашырэньне каталіцтва гэтаму, канечне, спрыяла. Толькі не з XII—XIV, а з XI ст. паходзяць самыя раньнія зьвесткі аб пранікненьні каталіцтва на Беларусь. Жонкай князя тураўскага Сьвятаполка Яраполчыча была дачка польскага князя Баляслава Сьмелага, а спаведнікам яна ў Тураве трымала біскупа калабжэскага Рэйнбэрна. У матэрыяльнай культуры раньнефэадальнай Беларусі ёсьць досыць элемэнтаў каталіцкай культуры.

Маглі быць і касьцёльныя арганы. Іх любілі шматлікія манаскія законы (апроч марыявітак — яны пакінулі каталіцтва і ўтварылі самастойную пратэстанцкую царкву). Вельмі паважалі арганы езуіты. Праваслаўная царква традыцыйна ад арганнай музыкі адмаўлялася. Пазыцыя ўніяцкай царквы досыць цьмяная. Пэўна, да Замойскага сабору 1720 году ўніяты ня ставілі ў цэрквах арганаў: і нязвычна было, і задорага. Прынамсі, нікому з папярэдніх дасьледнікаў і самому Ў.Неўдаху ня трапіліся зьвесткі пра ўніяцкія арганы XVI — першай паловы XVIII ст. Таму асьцярожна трэба ставіцца да меркаваньня, што арганныя творы знакамітага «Полацкага сшытку» ў свой час граліся ва ўніяцкай царкве. Бясспрэчна тое, што першыя зьвесткі пра арганы на беларускіх землях адносяцца да каталіцкай канфэсіі. Матэрыялаў тут шмат, многа яшчэ проста ня знойдзена.

Каб гісторыкі музыкі валодалі ўмельствам шукаць інфармацыю ў архівах, корпус зьвестак значна б вырас. Шукаць трэба ў касьцельных і гарадзкіх гаспадарчых дакумэнтах, візытах і інвэнтарах. Калі б музыказнаўцам хапіла цярпеньня прагледзець нават апублікаваныя дакумэнты, дык у кнізе Неўдаха можна было б знайсьці імя першага вядомага арганіста на сучаснай тэрыторыі Беларусі — берасьцейца Трошкі (інвэнтар Берасьця 1566 году). Гарадзкія інвэнтары каштоўныя тым, што даюць імёны арганістаў. Прыкладам, неапублікаваная візыта клецкага парафіяльнага касьцёла Сьвятой Тройцы 1714 году адзначыла ў сьвятыні пазытыў (невялікія арганы) «старасьвецкай работы аб шасьці галасах з бубнамі». Візыта 1766 году засьпела на хорах пазытыў «нядаўна ўладкаваны аб дзевяці галасах з бубнамі, другі пазытыў... стары, унізе, няспраўны, рапарацыі патрабуе». У 1796 годзе касьцёл меў пазытыў ужо аб адзінаццаці галасах, упрыгожаны «штукамі» разьбярскімі. Але ўсё гэта толькі мёртвая матэрыя. Імёны арганістаў ведаюць інвэнтары гораду. У 1713 годзе арганістам быў Тамаш Урбановіч.

Імёны арганістаў, што ўжо апублікаваныя, трэба правяраць. Арганіст XVII ст. Андрэй Рагачэўскі (быццам з татараў, з ваколіцаў Рагачова!) быў прыдворным музыкам князя Альбрыхта Станіслава Радзівіла, значыць, жыў у Нясьвіжы, а хутчэй у Алыцы на Валыні, але зусім ня ў Слуцку — уладаньні князёў Алелькавічаў. У кнізе шмат падзякаў уніятам, а таксама каталіцкай царкве, асабліва езуітам, за разьвіцьцё культуры. Пра апошніх нават сьцьвярджаецца, што яны яшчэ з канца XVI ст. (!) выдавалі кнігі па-беларуску. Увогуле да царкоўнай гісторыі трэба ставіцца больш разважліва. Усё ж кніга не пра яе, а пра музычную гісторыю. Багацьце матэрыялу і яго ясны выклад сапраўды на шырокім эўрапейскім фоне, сьпісы былых у Беларусі арганаў і арганістаў, пачынаючы з XVI і аж да XX ст., нотныя прыклады, каталёг існых касьцельных арганаў, убачаных на ўласныя вочы, робяць працу Ў.Неўдаха незаменнай. Яна сама стане помнікам музычнай культуры.

**Валеры Пазьнякоў**

## НОВЫЯ КНІГІ, ДАСЛАНЫЯ Ў РЭДАКЦЫЮ

**Annus Albaruthenicus 2000. Poetica. Prosa. Critica. Translatio. Describere. Год Беларускі 2000.** Рэдактар С.Яновіч. Графічнае афармленьне Л.Тарасевіч. — Крынкі: Villa Sokrates, 2000.

*Гэтае выданьне выглядае як старадрук. Прысьвечана беларускай літаратуры, але прызначана не для беларусаў, а для іншых эўрапейцаў, таму тэксты падаюцца ў асноўным не па-беларуску. Штогоднік, выходзіць на Беласточчыне, у нашай краіне ў продажу наўрад ці зьявіцца. Аб набыцьці можна паспрабаваць дамовіцца праз электронную пошту:* villa.sokrates@free.art.pl

**Arche. Панславізм: думка і злачынствы.** № 1 (6), 2000. — Менск: 2000. — 288 с. — Наклад 1000 ас.

*У чарговым нумары папулярнага «першага беларускага часапісу XXI ст.» разглядаюцца праблемы славянства — чым яно ёсьць і якую ролю мае ды мецьме славянская ідэя ў будучыні. На гэтыя пытаньні адказ чытачу даюць самыя ж славянскія аўтары амаль з усіх краін Цэнтральнай Эўропы: ад Чэслава Мілаша й Вука Драшкавіча да Міколы Рабчука й Яна Станкевіча. Ад гэтага нумару часапіс выходзіцьме штомесяц.*

**Белавеская пушча.** Аўтарская газэта Валера Дранчука. №1 (22), 2000. — Менск: 2000. — 32 с. — Наклад 2500 ас.

*Адзіная ў краіне прафэсійная прыродалюбная газэта зьмяніла свой фармат і, відавочна, рыхтуе чытача да пераўтварэньня сябе ў часопіс.*

Ю.Гарбінскі. **Беларускія рэлігійныя дзеячы XX ст.** / Навукова-рэдакцыйная рада: У.Конан (адказны рэдактар) ды іншыя. — Менск—Мюнхен: Беларускі кнігазбор, 1999. — 752 с.: іл. — Наклад 1500 ас. ISBN 985-6318-65-3

*Выйшла дадатковым накладам манаграфія пра беларускі рэлігійны рух і яго найвыдатнейшых дзеячоў гэтага стагодзьдзя. Кніга ўлучае па-над паўтары сотні біяграфіяў, мартыралёгію й факсыміле шматлікіх унікальных дакумэнтаў. Дамовіцца пра набыцьцё можна праз тэлефон 284-10-87 (Наталя Мазоўка) — цана 10 у.а.*

**Вый сваё.** № 1, 2000. — Менск: Цэнтар «Супольнасьць», Цэнтар «Адукатар», 2000. — 6 с. — Наклад 299 ас.

*Аматарам паскуголіць на адвечныя беларускія тэмы прапануецца гэты сьпеўнічак. Ён складзены паводле гітоў скаўцкага летніка «Нарачанка—1999». Замовіць можна праз тэл.: (017) 263-99-90.*

**Гісторыя Беларусі: 9 кляса.** 2-е выд. Падрыхтоўка да экзамэну з курсу базавае школы. Білеты. Прыклады адказаў. Даведкі. — Менск: ТАА «Лекцыя», 2000. — 116 с. — Наклад 10000 ас. ISBN 985-6305-23-3

*Кніга складзена ў адпаведнасьці з нацыянальнай канцэпцыяй выкладаньня гісторыі ў школе й дасьць добрую падказку на школьным экзамэне.*

А.Каралёў. **Жодзінская кроніка:** Дакумэнтальныя нарысы. — Жодзіна: Выдавец В.Жураўскі, 2000. — 32 с.: іл.

*У кнізе на глянцавай паперы з каляровымі ілюстрацыямі прасочваецца гісторыя Жодзіна не ад афіцыйнага году народзінаў горада — 1963-га, а ад першае згадкі ў пісьмовых крыніцах — 1688-га. Кніга прадаецца ў сядзібе БНФ за 770 рублёў.*

**Кантакты й дыялёгі.** № 3, 2000. — Менск, 2000. — 56 с. — Наклад 299 ас.

*Найцікавейшыя тэксты нумару: дасьледаваньне В.Далюгі «Крыніцы й інсьпірацыі ксылаграфічных ілюстрацыяў да выданьняў Ф.Скарыны», артыкул пра лёс бібліятэкі Пінскай сэмінарыі й нарыс А.Ліса «Віленскія матар'ялы з гісторыі беларускай інтэлігенцыі».*

І.Лосік. **Маладзік:** Вершы. — Менск: Беларускі кнігазбор, 2000. — 80 с. — Наклад 300 ас. ISBN 985-6318-76-9

*Гэта першая кніга выкладчыка музыкі Менскага пэдагагічнага каледжа № 2 імя М.Танка.*

Л.Вашко. **Маленькі сшытак Лявона Вашка:** Першы выпуск. Масты — Полацак — Менск, 2000. — 200 с. — Наклад 299 ас.

*Аўтар зьмяшчае свае палемічныя й філязафічныя лісты да вядомых дзеячоў беларускае культуры і сусьветнае палітыкі.*

**Музэйныя сшыткі. Навуковае апрацаваньне музэйных прадметаў. Пісьмовыя й фотадакумэнтальныя помнікі.** Навукова-мэтадычны зборнік. — Менск: Беларускі інстытут праблем культуры, 1999. — 98 с. — Наклад 250 ас.

*Чарговы выпуск «Музэйных сшыткаў» будзе карысны ўсім, хто працуе ў галіне музэйнае справы.*

***Падрыхтаваў Віктар Мухін***

Cerevisia Albaruthenica

# ПОРТЭР

Англійскае піва ўвозілася галоўным чынам праз Гданьск, адкуль паходзіць гэтая гравюра, а затым развозілася па ўсёй Рэчы Паспалітай.

**У Рэчы Паспалітай варылі ня так шмат якасных гатункаў піва. Апроч градзіскага, адным са славутых было варацкае (зь мястэчка Варкі на Мазоўшу). Захаваўся гістарычны анэкдот, быццам папа Клімэнт VIII, які у 1588 г. наведаў Рэч Паспалітую як легат Сьвятога Пасаду, настолькі палюбіў варацкае, што пазьней на смяротным ложку і ў трызьненьні згадваў *Pivo di Varka*. Кардыналы, якія сабраліся вакол хворага, мяркуючы, што ён кліча на дапамогу нейкую малавядомую сьвятую, пачалі гарліва маліцца: *Sancta Pivodivarka, ora pro nobis*. Але ў Новы Час да айчыннага піва як у Польшчы, так і ў Літве вярхі грамадзтва ставіліся досыць паблажліва, аддаючы перавагу імпарту.**

У XVII ст. папулярнымі — у тых, хто мог сабе іх дазволіць — былі гатункі прускага (напрыклад, тыльзіцкае) ці інфлянцкага паходжаньня, браўншвайгскае *Mumme* або данцыгскае *Toppen Bier*. У сярэдзіне XVIII ст. пэўны час пратрымалася мода на чэскае піва, але ў канцы стагодзьдзя яно саступіла месца ангельскаму.

Піўны стыль, які ў Брытаніі ўпершыню дасягнуў ўзроўню масавай вытворчасьці, усталяваўся на пачатку XVIII ст. і першапачаткова называўся там *entire* («цэльны») — моцны (7—12% алькаголю) цёмны эль, канчатковую фэрмэнтацыю якога праводзілі ў вялікіх драўляных чопах. Своеасаблівы сымбаль ангельскай прамысловай рэвалюцыі XVIII ст., гэты танны і масавы напой меў вялікую папулярнасьць у працоўнага люду і хутка атрымаў новую назву — портэр (ад анг. *porter* — грузчык). Менавіта пад такой назвай ён стаў вядомы ў скандынаўскіх і балтыйскіх краінах. Але калі на радзіме портэр меў ня самую высокую рэпутацыю, дык на ўсходзе і поўначы Эўропы ён быў сапраўдным прадметам раскошы й прэстыжу. Так, «Газэта Варшаўска» ў 1789 г. з гордасьцю рэклямавала «сьвежае ангельскае піва, проста зь Лёндану». Мода на ангельскае пранікла і ў Вялікае Княства, нягледзячы на тое, што ангельскі портэр абкладаўся самымі высокімі падаткамі — у Менску ў 1765 г. за бочку портэру спаганялі 18 злотых чопавага збору, у той час за бочку мясцовага піва — толькі 1 злоты.

Пасля таго як нейкі хітры шкіпэр падараваў 5000 бутэлек ячменнага нэктару піцерскім шпіталям, ён быў узнагароджаны выключным правам пастаўляць ангельскае піва да двара Кацярыны II, а сам гэты стыль у Англіі пачалі ганарова называць *Imperial Russian Stout* — «Імпэратарскае Расейскае Моцнае». Пад такой назвай гэтае піва, вядомае ў нас і нашых суседзяў як портэр, захавалася ў Брытаніі да нашых дзён, хаця яго залатыя дні даўно мінулі. Затое яго адгалінаваньне, вельмі цёмны эль, вядомы спачатку як *stout porter* — «моцны портэр», а пазней проста як *stout*, прыжыўся перш за ўсё ў Ірляндыі, і даў пачатак стылю, вядомаму дзякуючы такім славутым маркам, як *Guinness* і *Murphy's*.

Папулярнасьць портэру выклікала вялікую колькасьць як «афіцыйных», сумленных, імітацыяў, так і чыста пірацкіх падробак, якімі ня грэбавалі ні ў нас, ані ў самой Брытаніі. Вядомы віленскі лекар, доктар мэдыцыны Якуб Шымкевіч, які прысьвяціў вялікі разьдзел свайго дасьледаваньня «Аб п'янстве» (1818) розным спосабам фальшаваньня піва, засьцерагаў ад празьмернага захапленьня ангельскім: «Ня трэба гнацца за ангельскім півам і портэрам. Наша піва, калі робіцца са здаровага ячменю і ня скіслае, здаравейшае... Ангельскае піва таўсьціць і дурманіць, патрабуе доўгага прызвычайваньня і абдараваньня ад натуры моцным страўнікам». Віцебскі паэт-сатырык XIX ст. Францішак Рысінскі таксама крытыкаваў сваіх землякоў — аматараў портэру:

*Іншы ж п'е шакаляд, пуза портэрам поўніць,*
*Быццам з Грубэрам мудрым гаворыць на роўных.*

Каб узмацніць дурман, горыч і іншыя вартасьці свайго піва, ангельскія півавары дадавалі ў яго тытунёвы ліст, гішпанскі перац, альяс і нават опій (пагаворвалі й пра мыш'як) — асабліва ў тое піва, якое прызначалася на экспарт, бо дома ўлады ўсё ж сачылі за несумленнымі вытворцамі. На пачатку XIX ст., як пісаў Шымкевіч, ангельцы ў пагоні за прыбыткам нават спрабавалі цалкам замяніць і солад, і хмель нейкімі хімічнымі злучэньнямі, так што гатовы прадукт, паводле выразу газэты *Lloyds Evening Post*, быў падобны да сапраўднага піва, «як вапна да сыру».

Адной з вартасьцяў, за якую ў Рэчы Паспалітай цанілі ангельскі портэр, была яго незвычайная пеністасьць. Айчынныя тэхналёгіі не маглі пахваліцца тут добрымі вынікамі, прынамсі пры варцы піва зь ячменнага соладу ці пшаніцы. Але інгрэдыентам, які дазваляў атрымаць больш пеністае піва, быў гарох — шырокае яго выкарыстаньне ў піваварстве было адной з рэгіянальных асаблівасьцяў менавіта Вялікага Княства. У сучаснай Літве гатункі піва, у якія дадаецца гарох, захаваліся дагэтуль. Праўда, гэтая асаблівасьць літоўскага піва пакуль не настолькі добра распрацаваная, каб вылучыць «гарохавае» ў асобны стыль. Што ж датычыць портэру, менавіта ён на землях былой Рэчы Паспалітай, ужо пасьля падзелаў, адыгрываў ролю, так бы мовіць, нацыянальнага піўнога стылю. На Беларусі ў XIX ст. асабліва славіўся портэр бровару Ігнацыя Багдашэўскага ў Вязыні (ля Фаніпалю). Магчыма, аднаўляць гістарычныя традыцыі айчыннага піваварства варта менавіта зь легендарнага «балтыйскага портэру», вытворчасьць якога ніколі й не спынялася ў палякаў, латышоў, скандынаваў? Але ў такім выпадку гэта мусіць быць не выпадковая імітацыя, ня проста моцнае цёмнае піва, а менавіта «стары добры эль» мацункам 7—7,5%, звараны паводле ўсіх канонаў адпаведнай тэхналёгіі, з водарам добра пражанага соладу, з фруктовым ці кававым прысмакам. Сваяцтва з *Guinness* усё ж да чагосьці абавязвае, дый перад бліжэйшымі «сваякамі» ня мусіць быць сорамна — швэдзкім *Pripps Carnegie Porter*, фінскім *Koff Portteri*, эстонскім *Saku Porter*, латвійскім *Aldara Porter*. Праўда, большасьць зь іх напраўду ня элі, а лягеры, таму назву «портэр», з пункту гледжаньня сапраўдных знаўцаў, носяць не зусім заслужана...

**Алесь Белы, bely@infonet.by**

**ДАРАГАЯ МАРЫНАЧКА!**

*Віншуем цябе з Днём нараджэньня. Зычым табе вясновага настрою, любіць і быць любімай, заставацца заўжды па-вясноваму прыгожай. Посьпехаў табе ў прыватным і грамадзкім жыцьці, здароўя і зьдзяйсьненьня ўсіх жаданьняў. Дзякуй, што ты ёсьць!*

*Леванеўскія:*
*Валеры, тры сыночкі і дачушка*
*(Антон, Уладзімер, Зьміцер і Каценька)*

**ГАЗЭТА ПРЫМАЕ ТАКСАМА АБВЕСТКІ БОЛЬШЫМ ШРЫФТАМ ЗА НЕВЯЛІКУЮ ПЛАТУ**

- *да 20 словаў (тэкставы модуль)* — **90** *руб.,*
- *звыш 20 словаў (тэкставы модуль)* — **114** *руб.;*
- *па-мастацку аформленая аб'ява* – **54** *руб. за 1 кв. см;*
- *па-мастацку аформленая аб'ява памерам больш за 24 кв. см з улікам кошту арыгінал-макету — ад* **72** *руб. за 1 кв. см.*

*За аб'яву пра сямейныя падзеі — зьніжка.*

Абвесткі палітычнага характару і ад грамадзкіх арганізацыяў мусяць аплочвацца паводле рэклямных расцэнкаў для камэрцыйных аб'яваў.

Каб замовіць платную прыватную абвестку, трэба пералічыць грошы праз пошту пераводам на наступны разьліковы рахунак: *Рэдакцыя газэты «Наша Ніва», р/р 3012213050010 Ленінскае аддз. ААТ «Белбізнэсбанку» г.Менску, код 763.*

На зваротным баку бланку паштовага пераводу ў сэктары «Для пісьмовых паведамленьняў» запісваецца дакладна і чытэльна тэкст абвесткі, тэлефон для сувязі і АБАВЯЗКОВА ДАДАЕЦЦА СКАЗ: «ЗА РЭКЛЯМНЫЯ ПАСЛУГІ».

*Рэдакцыя*

## прыватныя абвесткі

**відэа, музыка**

**Аматары беларускае музыкі** у Берасьці! Зьвяртайцеся па аўдыёкасэты і CD (шырокі выбар). Т. у Берасьці: 24-54-56 (Сяржук)

**Жадаеце быць у курсе пра відэа** па-беларуску? Дашлеце капэрту + купон б/а — вышлем каталёг і высылацьмем дадаткі. Http://belvidea.cjb.net

**Аматары відэа! «**Беларускі відэаклюб» перакладзе раней той фільм, на які будзе даслана больш Вашых заявак: 220107, а/с 150. Т.: 240-78-01, 213-43-52

**вітаньні**

**Насьцечка,** *come sei bella*. Працяг будзе... Massimo

**Натальля!** Віншую зь Вялікаднем. Усяго табе самага-самага. Я.

**Мая сьветлая Вікуся!** Пяшчотай агортвае сэрца думка пра тое, што сёньня твой дзень. Віншую! Ніна

**Віншуем нашую** Вікусю з Днём нараджэньня! Зычым прыемна выспацца і вывучыць геаграфію пасьля сьвяткаваньня! Мы

**З Днём народзінаў**, Вікусік! Няхай на тваім шляху сустракаюцца толькі добрыя, як ты, людзі. Ната

**Мае сонейка Вікусічак**!!! Шчыра віншую цябе з Тваім Сьвятам!!! Шчасьцейка табе!!! Самага-самага сьветлага! Я

**Вікуся, віншую** цябе з Днём народзінаў. Зычу шчасьцейка і здароўечка. Будзь мужнай! Я з табою. Н.К.

**Аленка С.** зь Берасьця. А яно — каханьне — жыве ўва мне і з кожным днём мацнее. Яно добрае і сьветлае і, самае галоўнае, — шчырае. Сяржук Б.

**Віншую «Фантом»,** адну зь лепшых навапалацкіх інтэлектуальных каманд, зь перамогай над «Кузяй». D.Palakoŭ

**ідэі**

Тым, хто любіць Бога, усё памагае на дабро! Пасл. Рымл.8:28

Я палітык, беларус. Мне ня ўсё роўна, што сёньня. Заўтра зробім разам. Я — Ян Беларус'.

Народжаны «Кузяй» лятаць ня зможа. Крылаў няма. А ў нас ёсьць. D.Palakoŭ, «Фантом»

**Няўжо ёсьць адмарозкі**, якія заходніх беларусаў ня лічаць беларусамі, а ўсходніх — ліцьвінамі? Ліцьвін (Беларус)

**Беларусь** для беларусаў. Т.: 211-00-00, аб.83602; Менск-73, а/с 286

**Пуцін, НТВ, БДГ**, Джэнтльмэн-шоў, «Комсомольская правда», «Советская Белоруссия», «Правда народов содружества», «Товарищ», «Белорусская газета», «Белорусский рынок» — гэта тыя, хто не паважае нашу краіну. Ужо колькі гадоў назва яе — Беларусь (па-расейску таксама), а яны абразьліва каверкаюць яе неіснуючым словам «Белоруссия». В.Вянтура

**Хай прамень веры** саграе сэрцы, бо ўсе яны гібеюць у паняверцы. Чытач зь Віцебску

**Хрыстос Уваскрос!** Радуйцеся, людзі! Хай сьвятая любоў з вамі жыці будзе! Чытач зь Віцебску

**Вясна-2000** — гэта Гісторыя, гэта Сьвятое. Chaj vola viečna budzie z nami, A hvałtu my damo adpor! Alex

**БНФ, АГП і ўсей апазыцыі**: змагацца трэба ня з вынікам, а з прычынаю. Спачатку — Кебіч, зараз — лукашызм. Хто потым? Адкажыце. Alex

**Мы — не РБ**, РБ — ня мы. В.В.

**Хрыстос уваскрос!** Віншуем усіх чытачоў «НН» з найсьвяцейшым сьвятам Вялікадня. Бог Вас любіць. Браты з МФ

**Беларуская форма** — найлепшая беларуская мова, культура, прастора і час — для найвышэйшага Божага, хрысьціянскага зьместу! Нацыянальная ідэя

**Няхай не сумняваецца сэрца** вашае: веруйце ў Бога і ў Мяне веруйце. (Яна 14:1)

**Пратэставая апазыцыя** нарэшце ператвараецца ў масавы нацыянальны духовы рух. Гэта Абуджэньне! Вясна-2000

**Таму вера ад слуханьня**, а слуханьне — праз слова Хрыстовае. Рым. 10 (17)

**кантакты**

**Прывабны, малады, нежанаты** B.R.D. Sander шукае маладых незамужніх (нежанатых) гіпі, сайкабілаў(-іх), альтэрнатыўшчыц (-каў). Т.: 263-43-50

**Беларуска (26 гадоў)** жадае ліставацца з хлопцамі і дзяўчатамі (шчырымі беларусамі). 210035, Віцебск, а/с 53, Сьвятлана

**Сымпатычная беларуска (21 год)** пазнаёміцца з разумным хлопцам, шчырым беларусам. 210035, Віцебск, а/с 53

**Дружа!** Калі ты паважаеш нашамоўны рок, асабліва «НРМ», і зьяўляесься сапраўдным патрыётам, лістуймася. Кася. 213822, Бабруйск, вул. Гагарына, д.7, кв.1

**Aleś Kuźmin**, čamu ŭ Internecie niama sajtu «Miascovaha času»? Dzie hurtu Vašych fanataŭ uziac infarmacyju? Źmicier Palakoŭ

**Жыхару Пружанаў, які замаўляў выданьні** у Навапалацку. Патэлефануйце: (02144) 54130 ды пакіньце Вашыя імя й прозьвішча. Андрэй

**Газэце «Вольная Беларусь»:** дзякуй за Ваш № 2. Мы не нац-камуністыя, а нац.-дэмакраты. Слова «таварыш» нічым ня горшае за «сябра» ці «спадара». Газэта «Радавая Беларусь»

**Шукаю берасьцейцаў**, якія дадуць паслухаць (вярну) касэты «Зьніч», «Gods Tower», «Apraxia». Т.: (0162) 42-68-97, Барыс

**Аўтару абвесткі пра «Беларускую Амэрыку»** у № 16: вялікі дзякуй!!! Я й надзею страціў купіць яе. Alex

**Запрашаем да гуртаваньня** усіх асобаў з ультраправымі палітычнымі поглядамі ды традыцыяналісцкім сьветаглядам. А/с 342, 220050, Менск

**Шукаем кантактаў** з дасьведчанымі маладымі людзямі, якія сур'ёзна **цікавяцца дахрысьціянскай традыцыйнай культурай** і сьветаглядам. А/с 342, 220050, Менск

**кнігі, пэрыёдыкі**

**Тэксты и графіка**. Выданьне з Новага Полацку **«ПОСТ №1»**. Замова: (02144) 54130; а/с 38, Навапалацак-6, 211440. Андрэй Аляксандраў

**Постмадэрн з Новага Полацку**. Замаўляй і чытай. А/с 38, Навапалацак-6, 211440

**Куплю «Энцыкляпэдыю літаратуры** і мастацтва Беларусі». Т.: 283-27-34, Фёдар

**Рэакцыйная антыўрадавая газэта «Радавая Беларусь»** — для Вас. Ад Вас — 50 р. + капэрта з маркаю й купон б/а. А/с 169, 220030, Менск

**Набуду «Энцыкляпэдыю гісторыі Беларусі»** (т.3, 4). Т.: 283-29-39 (увечары), Ірына

Прапануем **новы нумар часопіса** Цэнтру Этнакасмалёгіі **«Крыўя»**. Кошт — 1 тыс. руб. А/с 342, 220050, Менск

**маечкі**

**Прымаю заказы** на цудоўныя маечкі **з** Клапом Бабарам. Сьпяшайцеся: тыраж абмежаваны. Тэл. 263-43-50 (увечары да 22-й)

**праца**

**Беларус (39)** у перапынку паміж гарачымі вясной-2000 і восеньню-2000 **шукае часовую працу за мяжой**. Т.: (0163) 47-00-84, Віктар

**В/а праца** для ўсіх. Каротка пра сябе. Капэрта са зв/а, купон б/а. 213827, Бабруйск, а/с 63

**Дапамагу пачаць уласную справу** ў хаце (не распаўсюджваньне). Прыбытак ад 200 у.а. Нескладана! Ад Вас капэрта са зв/а+купон б/а. Менск-89, а/с 122

**швейная машына**

Прадаецца **швейная машына «ESTA»** без чаўнаку (антыкварыят). Танна. Т.: 220-32-93 (з 18.00 па 20.00)

## паштовая скрынка

**Антосю Р. зь Менску.** *Палемікі з кожнай антыбеларускай фобіяй, прычым нават без надзеі на адказ з другога боку, ужо папярок горла стаяць. Ці ёсьць сэнс без канца даказваць самім сабе, што мы сапраўды існуем? Спрачацца варта ня зь «імі», а між сабою — ужо дзеля таго, што «яны» нашых газэтаў так і так не чытаюць.*

**Юльлі Ж. зь Менску.** *Гутарка зь Янкам Брылём друкавалася ў нумары 22 (143) «НН» за 13 верасьня таго году. У ёй Вы знойдзеце адказы на сія-тыя свае пытаньні. Новыя запісы Янкі Брыля друкаваліся ў апошніх нумарах часопіса «Полымя». На гутаркі Янку Брыля ўгаварыць цяжка. А кніжкі купляйце, вартыя.*

**Сержуку з-пад Менску.** *Слоўнікі Ластоўскага, Станкевіча, Санька нідзе ў Менску не прадаюцца, апроч букіністычных кнігарняў.*

**Зьмітру П. з Наваполацку.** *Любыя інфармацыі лепш дасылаць электроннаю поштаю.*

**Уладзіславу Ж. зь Менску.** *В.Шніпу можна пісаць на наш адрас — ён цяпер будзе весьці ў нас у газэце паэтычныя «Варштаты».*

**Анатолю К. з Гомеля.** *Перадамо просьбу сп.Брылю і Яновічу.*

**Ганьне С. з Койданава.** *Выдаць варта, але цяпер няма за што.*

НАША НІВА **КУПОН БЯСПЛАТНАЙ ПРЫВАТНАЙ АБВЕСТКІ**

Запоўніце гэты купон, і мы надрукуем Вашу абвестку (ня больш за 15 словаў) бясплатна. 220050, Менск, а/с 537

Тэкст ____________________

____________________

Імя і прозьвішча ____________________

Адрас, тэлефон ____________________

Наступны нумар «Нашай Нівы» выйдзе:
10 траўня 2000 году (серада).
Са сьвятам!

«Наша Ніва» незалежная газэта, заснаваная ў 1906, адноўленая ў 1991. Галоўны рэдактар Сяргей Дубавец. Рэдактар выпуску Андрэй Дынько. Мастацкі рэдактар Сяргей Харэўскі. Сакратар-рэфэрэнт Аляксандра Макавік. Дызайн-макет Лявон Раманчык. Выдавец: рэдакцыя газэты «Наша Ніва». Заснавальнік Павал Жук.
**Адрас для допісаў: 220050, Менск, а/с 537.**
**Tel/fax: (017) 227-78-92. E-mail: niva@user.unibel.by Http://members.xoom.com/Nasa_Niva.**
© **НАША НІВА**. Спасылка на «Нашу Ніву» абавязковая. Наклад 3761. 6 палос фарматам А2. Нумар падпісаны ў друк 20:44, 01.05.2000. Друкарня выдавецтва «Беларускі Дом друку». Менск, праспэкт Францішка Скарыны, 79. Замова № 2170. Рэдакцыя не нясе адказнасьці за зьмест рэклямных абвестак. Кошт свабодны. Пасьведчаньне аб рэгістрацыі пэрыядычнага выданьня № 581 ад 4-га ліпеня 1996 г., выдадзенае Дзяржаўным камітэтам па друку Рэспублікі Беларусі. Юрыдычны адрас: г. Менск, пр. газэты «Известия», д. 8, кв. 173.
Дыспэтчарска-рэдакцыйны адрас Менск, Бабруйская, 19/36